



# Рэгіянальная газета. Rh.by

rg_rhby
rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

25 чэрвеня 2021 года №26 (1365) 18+


# Што рабіць, калі лісы панадзіліся паляваць вясковых курэй

## Расказваем, як абараняць гаспадарку ад драпежнікаў

старонка 18

Пудзіла лісы ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі на экспазіцыі «Прырода Міншчыны».
Фота Настассі УТКІНАЙ.




Магазин САНТЕХНИКА ПЛЮС
Молодечно, Чкалова, 4
срочно ищет сотрудника:
ПРОДАВЕЦ-КОНСУЛЬТАНТ
Обучаем • Зарплата от 700 рублей
Тел. для справок: (8-029) 642-34-64 Виталий
ИП Кочетков В.Б. УНП 690295509

МАЯК
ПРИГЛАШАЕМ НА РАБОТУ!
В НОВЫЙ МАГАЗИН В г. МОЛОДЕЧНО
ЗАВЕДУЮЩИХ ОТДЕЛОМ з/п 1200-1500 руб.
СТАРШИХ КАССИРОВ з/п 1200-1400 руб.
КОНТРОЛЕРОВ-КАССИРОВ з/п 1100-1350 руб.
ПРОДАВЦОВ з/п 1000-1300 руб.
ГРУЗЧИКОВ з/п 1100-1400 руб.
УБОРЩИКА з/п 750-850 руб.
*з/п указаны до вычета налогов
7470,
HR@dobronom.by +375 (29) 677-18-23
ЗАО «Доброном» УНП 191178504


ISSN 1991–7155





Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by

# У адным раёне забаранілі хадзіць у лес, у трох абмежавалі наведванне

АСТРАВЕЦ
СМАРГОНЬ
АШМЯНЫ
ВІЛЕЙКА

**На 23 чэрвеня абмежаванне дзейнічала на наведванне лясоў у Ашмянскім, Смаргонскім, Астравецкім раёнах, а забарона – у Вілейскім.**

На карце сайта Мінлясгаса пазначаныя толькі тры першыя раёны. Аднак ёсць адпаведны ўказ райвыканкама і па Вілейшчыне, паведамілі ў мясцовым доследным лясгасе. На Ашмяншчыне абмежаванні ўвялі ад 23 чэрвеня. У астатніх раёнах – з 19.

**Абмежаванні звязаныя з трэцім класам пажарнай небяспекі ў лясах. Забараняецца ўезд тэхнікі, акрамя той, што ахоўвае лес.**


Фота Настассі УПКІНАЙ.

Наведванне лясоў у спякотныя дні небяспечнае.

У Вілейскім доследным лясгасе паведамляюць, што парушэнне патрабаванняў пажарнай бяспекі ў лясах або на тарфяніках, або забарона на іх наведванне, згодна з артыкулам 15.29 КаАП, якое не пацягнула прычыненне шкоды, цягне папярэджанне або накладанне штрафу да 25 базавых велічынь – 725 рублёў.

Парушэнне патрабаванняў пажарнай бяспекі ў лясах або на тарфяніках, што пацягнула знішчэнне або пашкоджанне лесу або тарфянікаў, згодна з артыкулам 15.29 часткі 2 КаАП, калі ў гэтых дзеяннях няма складу злачынства, цягне накладанне штрафу ў памеры ад 25 да 50 базавых велічынь – ад 725 да 1450.

Згодна з артыкулам 15.58. Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях, распальванне вогнішчаў у забароненых месцах цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў памеры да 25 базавых велічынь – да 725 рублёў.

На час абмежаванняў зачыняюцца ўсе шлагбаўмы на з'ездах з дарог у лясы, пры неабходнасці могуць усталёўвацца шыльды з інфармацыяй аб забароне наведвання лесу і адказнасці за яго парушэнне. На аўтатранспарце можна праязджаць толькі па дарогах, якія вядуць да населеных пунктаў, а таксама да ўладкаваных месцаў адпачынку.

**Аддзел інфармацыі.**

## Хто з суддзяў рэгіёна сышоў у адстаўку, а хто атрымаў новыя прызначэнні

МАЛАДЗЕЧНА
СМАРГОНЬ
АШМЯНЫ

**22 чэрвеня Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ аб прызначэнні і вызваленні суддзяў, паведамляе president.gov.by.**

### Мінская вобласць

**Вікторыю Паляшчук** прызначылі суддзёй Мінскага абласнога суда. Раней яна была суддзёй суда Маладзечанскага раёна. Яны выносіла прысуды пратэстоўцам за ўдзел у несанкцыянаваных масавых мерапрыемствах і па крымінальных справах. Паляшчук выносіла прысуды па крымінальных справах аб перакрыцці Вялікага Гасцінца, за абразу начальніка маладзечанскай міліцыі, за сутычку з амапаўцамі падчас ланцуга салідарнасці. Паляшчук прысудзіла 150 базавых велічынь за бел-чырвона-белы сцяг у машыне, за жалобнае шэсце ў гонар Рамана Бандарэнкі, дала 20 базавых дэпутату за мітынг у Лебедзеве ў жніўні 2020 года, штраф за пікет з бел-чырвона-белым сцягам, дала сем сутак за мітынг шматдзетнаму бацьку.

**Дзяніс Барэйка** і **Вольга Іванова** прызначаныя суддзямі суда Маладзечанскага раёна на пяць год. Дзяніс Барэйка ў лістападзе 2020 года даў 12 сутак Аляксандру Махоціну за ўдзел у шэсці пасля смерці Рамана Бандарэнкі.

**Вадзім Петрусевіч** будзе суддзёй суда Маладзечанскага раёна падчас сацыяльнага адпачынку суддзі **Таццяны Кавалёнак**.

### Гродзенская вобласць

Суддзя суда Ашмянскага раёна **Аляксандр Давыдаў** быў вызвалены ад пасады ў сувязі з выхадам у адстаўку.

Суддзя суда Смаргонскага раёна **Віта Страшкевіч** вызвалена ад пасады па ўласным жаданні.

**Аддзел інфармацыі.**

## Адкрылі новы кабінет камп'ютарнай тамаграфіі

МАЛАДЗЕЧНА

**Урачыстае адкрыццё новага кабінета камп'ютарнай тамаграфіі адбылося 18 чэрвеня ў Маладзечанскай цэнтральнай раённай бальніцы.**


Фота Міназдароўя.

Падчас адкрыцця.

Новы тамограф усталявалі па лініі Міністэрства аховы здароўя. Абсталяванне набылі за кошт пазыкі Міжнароднага банка рэканструкцыі і развіцця ў мэтах барацьбы з COVID-19. Пагадненне аб пазыцы ў памеры 90 мільёнаў еўра на рэалізацыю праекта па экстранным рэагаванні на COVID-19 у Беларусі Belarus Emergency COVID-19 Response Project падпісалі летам мінулага года.

Абсталяванне дазволіць убачыць карціну захворвання ў 64-кратным зрэзе, што нашмат палепшыць дакладнасць дыягностыкі.

Як адзначыў намеснік міністра аховы здароўя – галоўны дзяржаўны санітарны доктар Беларусі **Аляксандр Тарасенка**, актуальнасць камп'ютарнай тамаграфіі лёгкіх узрасла ва ўмовах пандэміі. Яна дапамагае заўважыць каронавірус, а таксама правесці дыягностыку практычна ўсяго арганізма – праверыць хворыя суставы і органы, пацвердзіць наяўнасць або адсутнасць новаўтварэнняў.

**Паводле Міністэрства аховы здароўя.**

# Якую працу і заробкі прапануюць у рэгіёне

ВІЛЕЙКА
МАЛАДЗЕЧНА
МЯДЗЕЛ
ВАЛОЖЫН

**Мы прагледзелі, якую працу прапануюць прадпрыемствы і арганізацыі рэгіёна і колькі тут гатовыя заплаціць спецыялістам.**



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Ведаеце месцы ў рэгіёне, дзе можна зарабіць 1000 і нават 1300?

### Вілейка. Больш за тысячу – у райвыканкаме

У апошнія дні некалькі вакансій з'явілася ад прадпрыемстваў «Зеніт БелАМА» і ПМК-88. На завод патрэбныя ліцейшчык і шліфоўшчык. Ліцейшчыку прапануюць ад 650, шліфоўшчыку – на сто рублёў менш. Трактарысту на ПМК абяцаюць ад 800. А машыністам экскаватара і бульдозера – ад 900 кожнаму.

«Буддэталі» шукаюць кіроўцу пагрузчыка з заробкам ад 850, трактарыста на вываз лесу – ад 920, шліфоўшчыка па дрэве – ад 730, грузчыка – ад 620 і заточніка інструмента – ад 560. На рамзавод возьмуць інжынера-канструктара і інжынера-тэхнолага. Абодвум абяцаюць ад 600. Наладчык кавальска-прэсавага абсталявання на гэтым прадпрыемстве атрымае ад 550.

На Вілейскім камбікормавым заводзе аператар перапрацоўкі збожжа і слесар па рамонце абсталявання атрымаюць ад 550 кожны. Сюды ж патрэбныя яшчэ два слесары – па рамонце аўтамабіляў і па кантрольна-вымяральных прыборах і аўтаматыцы. Заробкі – ад 485 і 500 адпаведна.

На прадпрыемства «Юнік-Агра» патрэбны жывёлавод. Гаспадарка знаходзіцца ў вёсцы Забалацце Ільянскага сельсавета. Спецыялісту прапануюць ад 500. А ў гаспадарку «Абадоўцы», што ў аднайменнай вёсцы, возьмуць інжынера па ахове працы і галоўнага агранома. Заробкі – ад 550 і ад 850 адпаведна.

**У аўтапарк возьмуць кіроўцаў і механіка. Кіроўца з катэгорыямі «C, E» атрымае ад 643, з катэгорыяй «D» – ад 800. Механіку прапануюць найменш – ад 569.**

Педагог-арганізатар на 0,75 стаўкі патрэбны ў Вілейскай школе-інтэрнаце. Заробак – ад 300. Педагогу-псіхолагу тут жа заплацяць ад 500 на стаўку.

Ёсць вольныя месцы і ў Вілейскім райвыканкаме. Тут патрэбны намеснік кіраўніка спраў. Абяцаюць ад 1266,42. Сюды ж за 200 рублёў патрэбны сталяр на паўстаўкі і слесар-сантэхнік, якому прапануюць ад 400.

### Маладзечна. Шукаюць нават слесара па рамонце баявых машын

Тут дастаткова прапаноў ад школ і садкоў. Шэф-повар у садок №27 – ад 450 і кухонны рабочы ў садок №30 – ад 405. У сярэднюю школу ў Гарадзілаве шукаюць настаўніка французскай мовы. Прапануюць ад 589,78. Сюды ж патрэбныя педагог-псіхолаг, дэфектолаг, кіроўца катэгорыі «D». Найбольш атрымае дэфектолаг – ад 592, найменш педагог-псіхолаг – ад 512. Сталяр на паўстаўкі атрымае тут ад 400. У гімназію №7 возьмуць прыбіральшчыцу. Заробак – ад 409. У Алёхнавіцкі дзіцячы сад – педагога-псіхолага на паўстаўкі. Заробак – ад 242. У СШ №5 патрэбныя сакратар і інспектар па кадрах. Заробкі – ад 409,75 і ад 500 адпаведна.

У лялечны тэатр «Батлейка» на стаўку патрэбны мастак-грымёр. Заробак – ад 426 рублёў. Сюды ж возьмуць загадчыка музычнай часткі, галоўнага рэжысёра і артыста. Загадчык атрымае найменш – ад 400. Іншыя спецыялісты – ад 477 і ад 485.

Працу буфетчыка на камбінаце хлебапрадуктаў ацэняць заробкам ад 500, інжынера па пажарнай бяспецы ў ЦРБ – ад 450.

Ёсць некалькі вакансій у санаторыі «Вяжуці». Гэта слесар-сантэхнік, дворнік, шэф-повар, інжынер па ахове працы, намеснік галоўнага доктара. Апошні атрымае найбольш – ад 1200. Заробкі астатніх – у межах 420-650.

**На «Забудову-буд» возьмуць інжынера па ахове працы, кіроўцу пагрузчыка, маляра. Усім прапануюць ад 800. Ад 700 – токару, ад 1300 – ізаліроўшчыку.**

Наладчык абсталявання і слесар-рамонтнік патрэбныя на «Энву». Абодвум – ад 500. У інспекцыі дзяржстандарту шукаюць начальніка аддзела. Яму – ад тысячы. У «Еўраопт» у Чысці возьмуць грузчыка і заплацяць ад 700.

А вось вакансіі з вайсковай часці ў Красным: інжынер па эксплуатацыі і рамонце будынкаў, кіроўца аўтамабіля і слесар па рамонце баявых і спецыяльных машын. Кіроўцу – ад 800. Слесару – на сто рублёў больш. А слесар па кантрольна-вымяральных прыборах і дэфектаскапіст па магнітным і гукавым кантролі павінны атрымаць тут ад 920.

У гаспадарку «Хажова-агра» патрэбны заатэхнік, аператар машыннага даення, трактарыст-машыніст. Трактарысту заплацяць ад 700, астатнім – ад 600.

Доктара функцыянальнай дыягностыкі на палову стаўкі з заробкам ад 284,9 шукае Маладзечанская ЦРБ. Кіраўнікі студый дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і харэаграфіі патрэбныя ў дзіцячы цэнтр «Расток». Мастак атрымае ад 420, харэограф – ад 410.

### Мядзел і Валожын. Вакансіі ад Нацыянальнага парку і лясгаса

Вакансіі ад Нацыянальнага парку «Нарачанскі» наступныя: пакаёўка, мыйшчык посуду, прыбіральшчык, майстар лесу, памочнік ляснічага. Найбольш атрымаюць спецыялісты лясной гаспадаркі – ад 750. Найменш прыбіральшчыца – ад 400.

**Афіцыянту ў санаторыі «Нарачанка» прапануюць ад 400.**

У Валожыне патрэбны прыбіральшчык у ЖКГ. Заробак – ад 520 рублёў. У Валожынскі лясгас – інжынеры па ахове лесу і па лесавыкарыстанні, кіроўца з пасведчаннем аператара маніпулятара. Інжынерам прапануюць ад 1300, кіроўцу – ад 1500. Трактарыст тут атрымае ад 1200. Укладчыцы піламатэрыялаў і вырабаў ад 700. На гэту працу запрашаюць жанчын.



Падрыхтавала
Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

**ЛІЧБА НУМАРА**

**55 800**

столькі дактароў працавала ў Беларусі на студзень 2021 года.

Паводле Белстата.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 17.06 | 24.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.4954 | **2.5362** |
| Еўра | 3.0262 | **3.0260** |
| Злоты, 10 | 6.6930 | **6.6991** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4673 | **3.4903** |
| Грыўня, 100 | 9.2192 | **9.3006** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 17.06 | 23.06 |
| Еўра | 2.9700/3.0500 | **2.9800/3.0600** |
| Долар ЗША | 2.4500/2.5200 | **2.5000/2.5800** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 16.06 | 23.06 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 22,90 | **22,90** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 4,25 | **4,25** |
| Сасіскі, 1 кг | 8,21 | **7,87** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **9,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Селядзец, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 18,90 | **18,90** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,50 | **2,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 2,90 | **4,20** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,60 | **2,60** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 2,00 | **2,00** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,40 | **2,40** |
| Агуркі, 1 кг | 1,50 | **1,40** |
| Баклажаны, 1 кг | 7,50 | **5,50** |
| Бульба маладая, 1 кг | 2,70 | **2,50** |
| Буракі, 1 кг | 1,50 | **2,00** |
| Капуста маладая, 1 кг | 2,20 | **1,40** |
| Морква, 1 кг | 2,00 | **1,50** |
| Памідоры, 1 кг | 3,60 | **4,50** |
| Перац, 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Часнок, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **6,00** |
| Абрыкосы, 1 кг | 10,00 | **8,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 5,00 | **5,00** |
| Бананы, 1 кг | 3,30 | **3,90** |
| Вінаград, 1 кг | 10,00 | **8,00** |
| Грушы, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Дыня, 1 кг | – | **5,00** |
| Кавуны, 1 кг | 3,00 | **3,00** |
| Клубніцы, 1 кг | 4,90 | **2,70** |
| Лімоны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Нектарыны, 1 кг | 7,50 | **7,00** |
| Слівы, 1 кг | – | **12,00** |
| Чарэшні, 1 кг | 10,00 | **8,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Масла, 1 кг | 18,00 | **18,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | **4,00** |

## У аварыі пацярпеў васьмігадовы раварыст

ВІЛЕЙКА

16 чэрвеня каля гадзіны дня ў вёсцы Бараўцы пад колы трапіў непаўнагадовы раварыст.

Дзіця ехала па дарозе Бараўцы-Урэчча і выехала далей за метр ад правага краю праезнай часткі на паласу сустрэчнага руху. Там васьмігадовы раварыст сутыкнуўся з «Аўдзі-80», кіроўца якой рухаўся ў спадарожным кірунку. Дзіця з цялеснымі пашкоджаннямі забралі ў бальніцу. Па факце ДТЗ праводзяць праверку.

Дзяржаўтаінспекцыя Мінскай вобласці просіць кіроўцаў быць вельмі ўважлівымі пры праездзе населеных пунктаў. Таксама, каб пазбегнуць падобных здарэнняў, звяртаем увагу на тое, што раварыстам, якія не дасягнулі 14 гадоў, катэгарычна забараняецца знаходзіцца на дарогах агульнага карыстання без суправаджэння дарослых.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## На СТА згарэў аўтамабіль

СМАРГОНЬ

16 чэрвеня ў 15:15 смаргонскім выратавальнікам паступіла паведамленне пра тое, што гарыць аўтамабіль «Аўдзі-80» у горадзе на вуліцы Гагарына.

У выніку аўтамабіль знішчаны цалкам. Таксама агонь пашкодзіў маёмасць, перакрыццё і дах на плошчы 120 квадратных метраў на станцыі тэхабслугоўвання, якая належыць прыватнаму прадпрыемству. Прычына пажару высвятляецца.

**Паводле МНС.**

## Лось нечакана выбег на дарогу і справакаваў ДТЗ

МАЛАДЗЕЧНА

ДТЗ у Маладзечанскім раёне адбылося 15 чэрвеня, каля 23 гадзін. У выніку загінуў лось, а ў аўтамабіля – значныя механічныя пашкоджанні.

Падрабязнасці аварыі расказала карэспандэнту інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза:**

– 49-гадовы маладзечанец ехаў па аўтадарозе Мінск-Нарач у кірунку Нарачы на аўтамабілі «Хёндэ». На 50-м кіламетры аўтадарогі машына наехала на лася, які нечакана выбег на дарогу з прыдарожнага кювета злева направа адносна машыны. У выніку сутыкнення лось загінуў, а аўтамабіль атрымаў механічныя пашкоджанні.

**ДАІ звяртае ўвагу:** У апошні час у Маладзечанскім раёне пачасціліся выпадкі, калі дзікія жывёлы выходзяць на аўтадарогі. У сувязі з гэтым ДАІ пераканаўча просіць кіроўцаў быць уважлівымі за рулём.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Кіроўца загінуў ад удару ў прыдарожнае дрэва

СМАРГОНЬ

Здарэнне адбылося раніцай за два кіламетры ад Смаргоні на аўтадарозе, якая злучае райцэнтр з Маладзечнам.

37-гадовы мужчына на «Шэўралэ» на прамым асфальтаваным участку не справіўся з кіраваннем, з'ехаў у левы кювет і ўдарыўся ў прыдарожнае дрэва.

Ад удару мужчына памёр на месцы здарэння.

**Паводле УУС Гродна.**

## Кіроўца ўчыніў ДТЗ, выязджаючы з запраўкі

МАЛАДЗЕЧНА

Аварыя здарылася 17 чэрвеня каля 13 гадзін на 45-м кіламетры аўтадарогі Мінск-Маладзечна-Нарач, каля запраўкі. Сутыкнуліся два аўтамабілі.

– Выязджаючы з запраўкі, 30-гадовы жыхар Жодзіна не пераканаўся ў бяспецы. Ён хацеў павярнуць налева, выехаў на сустрэчную паласу, дзе сутыкнуўся з аўтамабілем «Нісан-Прымера», якім кіравала 41-гадовая мінчанка, – расказала карэспандэнту інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна Дыяна Галуза.

Па яе словах, кіроўцы не пацярпелі. Матэрыял на праверцы ў ДАІ.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Аўтамабіль сутыкнуўся з ласём. Пацярпеў пасажыр

ВІЛЕЙКА

Здарэнне адбылося 20 чэрвеня на 122-м кіламетры аўтадарогі Барысаў-Ашмяны, каля Крывога Сяла, з-за лася, які нечакана выбег на дарогу. У аварыі пацярпеў пасажыр, жыхар Вілейшчыны.

Падрабязнасці здарэння расказаў выканальнік абавязкаў начальніка ДАІ Вілейшчыны **Генадзь Сяськоў**:

– 24-гадовы жыхар Рабунь рухаўся на «Пежо-407» і наехаў на лася, які нечакана выбег на дарогу злева направа. У выніку пацярпеў 21-гадовы пасажыр, жыхар вёскі Баяры. Пацярпеламу медыкі аказалі дапамогу на месцы і шпіталізавалі. Ад сутыкнення лось загінуў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Фота забяспечанае Дыянай ГАЛУЗАЙ.

На месцы здарэння.

# Грузавік сутыкнуўся з электрычкай

## У машыны не спрацавалі тармазы

МАЛАДЗЕЧНА

**23 чэрвеня здарылася аварыя на чыгуначным пераездзе ў Красным.**

У АДАІ Маладзечна расказалі, што каля паловы дзясятай раніцы 24-гадовы кіроўца на «МАЗе» ехаў па вуліцы Няміры ў Красным з боку кар'ера ў Івонцавічах. На чыгуначным пераездзе, што на вуліцы Няміры, у яго перасталі дзейнічаць тармазы. Не дапамог і ручнік.

У выніку кіроўца наехаў на электрычку, якая рухалася па чыгуначных пуцях. Пашкоджаны тры апошнія вагоны.

На словах работнікаў ДАІ, электрацягнік з'ехаў з месца ДТЗ адразу пасля агляду, калі стала зразумела, што нічога не пагражае бяспецы пасажыраў. Ніхто не пацярпеў.

У кароткія тэрміны быў адкрыты рух для цягнікоў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На Лясных знайшлі самагонны цэх

МАЛАДЗЕЧНА

Самагонную вытворчасць арганізаваў у сябе ў гаражы 41-гадовы мясцовы жыхар. Апарат і ўсё неабходнае для вырабу самагону мужчына размясціў у ізаляваным памяшканні плошчай тры на тры метры.

Падчас агляду пабудовы міліцыянеры заўважылі самагонны апарат, больш за тону брагі і дзевяць літраў гатовага самагону. Сам мужчына запэўніваў, што выраблаў хмельны напой для асабістых патрэб.

Вытворчы агрэгат дэмантавалі і канфіскавалі. Гатовы самагон таксама канфіскаваны, брагу знішчылі. Узоры спіртазмяшчальнай вадкасці накіравалі на экспертызу. У дачыненні да маладзечанца пачалі адміністрацыйны працэс, праводзяць праверку. Раней фігурант ужо прыцягваўся да адказнасці за самагонаварэнне.

Па выніках экспертызы вырашаць пытанне аб прыцягненні маладзечанца да адміністрацыйнай адказнасці па артыкуле 13.27 КаАП «Выраб або набыццё моцных алкагольных напояў (самагону), паўфабрыкатаў для іх вырабу (брагі), захоўванне апаратаў для іх вырабу». Санкцыя гэтага артыкула прадугледжвае штраф да 30 базавых велічынь – да 870 рублёў.

**Паводле РАУС Маладзечна.**

## У Красным мужчына правёў пяць дзён без ежы і вады ў зачыненай кватэры

МАЛАДЗЕЧНА

Аператыўнікам крымінальнага вышуку паведамілі, што 32-гадовы жыхар Краснага перастаў выходзіць на сувязь. Міліцыя шукала мужчыну ў сувязі з расследаваннем крымінальнай справы па крадзяжы маёмасці з кватэры, дзе ён праходзіць як пацярпелы.

– Міліцыянеры прыбылі да мужчыны, але дзверы ім ніхто не адчыніў. Калі прыйшлі сюды крыху пазней, западозрылі, што ў кватэры нехта ёсць. З-за ўваходных дзвярэй яны пачулі мужчынскі голас.

Гаспадар растлумачыў, што згубіў ключ і не можа выйсці са свайго жытла, а кватэру звонку выпадкова замкнула яго маці. Звязацца з ёй было нельга, бо мабільнага тэлефона пры сабе мужчына не меў. Выбрацца з замкнутай кватэры ён так і не змог і больш за пяць дзён знаходзіўся без ежы і вады, якая была адключаная, – распавялі ва УУС.

Міліцыянеры выклікалі МНС. Ратавальнікі паставілі аварыйную лесвіцу і дапамаглі выбрацца мужчыну на вуліцу праз акно другога паверха. Пацярпеламу далі вады і накармілі, яго стан нармалізаваўся. Таксама яму своечасова дапамаглі медыкі.

**Паводле РАУС Маладзечна.**

## Міліцыянеры знішчылі больш за паўгектара маку

МЯДЗЕЛ

Днямі аператыўнікі наркакантролю Мядзельскага РАУС знайшлі два ўчасткі маку без прыкмет культывацыі.

Першы ўчастак плошчай больш за гектар знаходзіўся на зямельных угоддзях, якія належаць ААТ «Мядзелрайаграсэрвіс». Міліцыянеры паведамілі пра гэта кіраўніку прадпрыемства. На поле неадкладна выслалі тэхніку для пакосу і знішчэння наркатычных раслін. У агульнай складанасці скасілі і знішчылі больш за 800 кілаграмаў маку.

Яшчэ адзін участак плошчай каля 0,6 гектара знайшлі міліцыянеры разам з работнікамі Свірскага сельскага выканаўчага камітэта. Больш за 200 кілаграмаў маку скасілі і здрабнілі.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Міліцыя шукае рукзак, які знік у гаспадыні, калі ехала ў электрычцы

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанскае АУСТ шукае рукзак цёмна-сіняга колеру з чырвонымі ўстаўкамі.

У ім знаходзіліся дзве звязкі ключоў па пяць штук, акуляры ў аправе ружовага колеру, футарал для акуляраў чырвона-ружова-сіняга колеру, падзарадная прылада да мабільнага тэлефона чорнага колеру, салатавая расчоска, шоўкавая шыйная хустка тыгравай расфарбоўкі, пяць батарэек, лекі, прадукты.

Рукзак гаспадыня забылася ў трэцім вагоне электрычкі №6109 «Мінск-Маладзечна» 24 мая.

Калі вам вядома пра месцазнаходжанне рукзака, калі ласка, паведаміце пра гэта на нумары **(8-0176) 74-23-57, (8-029) 140-64-39, 765-14-39.**

**Аддзел інфармацыі.**

# Чаму спякота – напружаны час для выратавальнікаў

## І што рабіць, каб адпачынак ля вады быў бяспечны

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА
МЯДЗЕЛ

**На возеры ў Любані, на Вілейшчыне, 19 чэрвеня патануў мужчына. З Вілейскага вадасховішча ратавалі двух сталічных падлеткаў. А на Мядзельшчыне ў мінулыя выхадныя быў такі наплыў адпачывальнікаў, якога выратавальнікі не памятаюць апошнія некалькі год.**



Фота забяспечана Валянцінай СОПАТ.

Падчас рэйду па вадаёмах Маладзечаншчыны.

Усяго ж за мінулыя суботу і нядзелю патанула 17 чалавек, а за мінулы тыдзень – 30.

Расказваем, як праходзяць спякотныя дні на вадаёмах рэгіёна і нагадваем правілы бяспекі на вадзе.

### Мядзел. Адпачывальнікаў шмат, але амаль усе дысцыплінаваныя

Пра тое, што адбываецца ў спёку на азёрах Мядзельшчыны, расказаў начальнік Мядзельскай выратавальнай станцыі **Дзмітры Дамшэль**:

– Такога наплыву людзей, як у гэтыя выхадныя, не было ўжо гадоў дзесяць. Праўда, большасць адпачывальнікаў дысцыплінаваныя. Зрабілі толькі некалькі папярэджанняў тым, хто заплываў за буі.

### Вілейка. Адзін – тапелец, двое – выратаваных

20 чэрвеня Асвод, РАУС і РАНС Вілейшчыны праводзілі рэйд па кемпінгах Вілейскага вадасховішча. У нейкі момант убачылі двaіх дзяцей у цэнтры вадасховішча на надзіманым матрацы.

– Паспрабавалі знайсці бацькоў і паехалі на сваёй лодцы да дзяцей. Іх ужо цягнуў да берага рыбак, прымацаваўшы матрац з дзецьмі да лодкі. Дзеці былі без камізэлек, рыбак таксама. А гэта парушэнне тэхнікі бяспекі. Мы забралі дзяцей на сваю лодку, адвезлі іх на бераг і перадалі бацькам, – расказала старшыня Вілейскай раённай арганізацыі Асвод **Алена Граковіч**.

Як высветлілася, 14-гадовыя хлопчыкі прыехалі з Мінска з бацькамі адпачываць на кемпінг. Пасля вырашылі паплаваць на матрацы. У выніку цячэнне панесла іх да супрацьлеглага берага. З бацькамі выратавальнікі правялі прафілактычную гутарку.

Алена Граковіч адзначыла, што матрац не з'яўляецца сродкам для плавання. На ім можна загараць на беразе або каля самага берага. Забароненыя таксама вялікія надзіманыя цацкі і камеры ад машын.

– У выходныя 19 і 20 чэрвеня Вілейскае вадасховішча было проста ўсыпанае надзімаными матрацамі, – адзначае Алена Граковіч. – Канешне, калі на іх адпачываюць на беразе ці каля яго, мы асабліва заўваг не робім. Калі ж бачым парушэнне, абавязкова папярэджваем, праводзім гутарку. Штрафаў пакуль не давалі.

А 19 чэрвеня вілейскія выратавальнікі прыязджалі ў аграгарадок Любань, каб дастаць тапельца. Пра яго каля дзесяці гадзін паведамілі ў міліцыю. Асобу ўстанавілі. Загінулы – 39-гадовы мясцовы жыхар. Следчыя высветлілі, што мужчына пайшоў купацца ўвечары 18 чэрвеня.

### Маладзечна. Калі бачылі дзяцей адных ля вады, адразу паведамлялі бацькам

16 чэрвеня ў Маладзечанскім раёне работнікі ГРАНС таксама правялі рэйдавыя мерапрыемствы сумесна з РАУС, упраўленнем па адукацыі і Асводам. Галоўная мэта – фарміраванне ў грамадстве культуры бяспекі жыццядзейнасці па прафілактыцы і папярэджанні небяспечных сітуацый, гібелі і траўматызму ад іх людзей на вадаёмах летам, расказала інспектар сектара прапаганды і ўзаемадзеяння з грамадскасцю Маладзечанскага ГРАНС **Валянціна Сопат**.

Начальнік інспекцыі па справах непаўналетніх Маладзечанскага РАУС **Аляксей Посах**, старшыня Маладзечанскага раённага Асвода **Анатоль Пяцюшык**, прадстаўнікі ГРАНС **Сяргей Палітыка** і **Валянціна Сопат**, начальнік упраўлення па адукацыі Маладзечанскага райвыканкама **Іна Драпеза** наведалі вадаёмы ў Маладзечанскім раёне.

У ходзе рэйду ўдзельнікі вучылі адпачывальнікаў асновам бяспекі жыццядзейнасці: праводзілі тлумачальныя гутаркі, раздавалі наглядную прадукцыю.



Фота Алены ГРАКОВІЧ.

Вілейскае вадасховішча сёлетняй спякотай. Пра тое, што надзіманы матрац – не сродак для плавання, відаць, ведаюць не ўсе.

Дарослым настойліва рэкамендавалі не заходзіць у ваду ў стане алкагольнага ап'янення, а таксама пастаянна кантраляваць знаходжанне дзяцей у вадзе. Дзецям раілі далёка не заплываць, не ныраць, не дурэць у вадзе.

Калі заўважалі дзяцей на вадаёмах без суправаджэння дарослых, адразу ж паведамлялі бацькам. Бо менавіта без кантролю дарослых на канікулах з дзецьмі здараецца шмат няшчасных выпадкаў.

Выратавальнікі МНС і супрацоўнікі Асвода нагадваюць:

- купанне на неабсталяваных пляжах – небяспечнае;
- ужываць алкаголь хай і ў маленькіх дозах падчас адпачынку недапушчальна;
- дзяцей ні на секунду нельга пакідаць без нагляду;
- калі нехта тоне, трэба неадкладна тэлефанаваць выратавальнікам на нумары **101** або **112**.

Абавязкова пагаварыце пра бяспеку са сваякамі, сябрамі ці знаёмымі, калі яны адпраўляюцца на адпачынак да вады.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03.** |
| | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **2-49-65, 2-49-70.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16.** |



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Опель-Зафіра, 2001 г.в., 290 000 км, ідэальны стан. Т. (8-029) 7510708.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

• Рухавік ВАЗ-210836, СПХ да ВАЗ-21099, да ВАЗ-2101, да «Масквіча-412» і запчасткі да ВАЗ-21099. Т. (8-029) 9050949.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўтамабіль аварыйны альбо з праблемамі. Эвакуатар бясплатна. Т. (8-029) 9085343.*

• Аўто 1,0 – 5,0 л у любым стане. Тэрмінова! (срочно). Т. (8-029) 7088846.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Іншамарку ў любым стане, можна не на хаду. Забяру сам. Т. (8-029) 5377786.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-033) 3631161, (8-029) 1236722.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6510099, (8-029) 7555455.*



## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра з балконам агульнай плошчай 30,3 кв. м, 5 паверх, у цэнтры Маладзечна па вуліцы Вялікі Гасцінец, 72-а. Т. (8-029) 7672490.*

• Дача ў в. Узбалаць Валожынскага с/с. Нядорага. Т. МТС (8-029) 7545587.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. В. Гасцінец, 76, 2 паверх, 47,5/30,9/6,2. Т. (8-029) 8530568, Юра, (8-029) 8658884, Інэса.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, раён – Зеніт. Агульная плошча 65,6 кв.м, 3 паверх 5-павярховага панэльнага дома. Магчымы абмен на 1-пакаёвую кватэру ў Мінску. Т. (8-029) 6615287.*

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС.*

• Дом у Маладзечне па вул. Усходняй. Т. (8-029) 8531242.*

• Кватэра ў навабудоўлі Маладзечна. Т. (8-029) 9439184.*

• Участак у в. Чыжэвічы Вілейскага раёна, 15 сотак, вул. Чыжэвіцкая, 9-б. 500 м ад Вілейскага вадасховішча. Побач лес. Па вуліцы праведзены прыродны газ. Т. (8-029) 6686477.*

### ЗДАМ

• Майстэрню для рамонту аўтамабіляў з абсталяваннем, 90 кв.м. Т. МТС (8-029) 1110707.*

• Памяшканне ў цэнтры Маладзечна, 32 кв.м. Т. (8-029) 5551515.*

• У арэнду памяшканне магазіна плошчай 370 кв.м у Маладзечне па вул. Святаянскай, 75. Ёсць памяшканне для вытворчасці паўфабрыкатаў. Магчымы продаж. ІП Заянчкоўскі І.С. УНП 691890017. Т. (8-029) 6278076.*

### НАЙМУ

• Найму частку дома альбо пакой. Т. (8-044) 5762377.



## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Жывая музыка. Тамада. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

• Музыка. Відэа. Фота. Т. (8-029) 8578378.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• Вароты адкатныя і двухстворкавыя (распашные). Агароджы. Навесы. Казыркі і іншыя вырабы з металу з коўкай ці без. Растэрміноўка. ІП Дрозд. УНП 692024743. Т. (8-029) 7611311, (8-044) 7145208.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245.

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Дах пад ключ. Мантаж новага, замена старога. Матэрыялы. Дастаўка. Гарантыя. ІП Капцюг Р.П. УНП 692252550. Т. (8-029) 5580884,(8-029) 9382802.*


**СДАЁТСЯ ПОМЕЩЕНИЕ**
**под услуги • 30 м. кв.**
**300 рублей в месяц** плюс небольшие коммунальные
*Рядом «Копеечка», перекрёсток, остановка автобуса, хороший трафик*
**Молодечно, Ларина, 2-а**
Тел (8-029) **642-34-64**
ИП Кочетков В.Б. УНП 690295509


• Дахавыя работы, устаноўка агароджаў пад ключ, укладка тратуарнай пліткі. ІП Смолка М.В. УНП 691185021. Т. (8-044) 7794566.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт тэлевізараў і антэн. Вілейка і Вілейскі раён. ІП Пятрашэвіч А.В. УНП 691182709. Т. (8-029) 5714165 (вайбер).*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

• Свідраванне (сверление) адтулін (отверстий) у бетоне, цэгле, камені пад каналізацыю, водаправод, вентыляцыю. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 7088846.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*



## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Арганізацыя прадае фрызы і дэкоры, бардзюрныя ўстаўкі старых калекцый пліткі «Керамін» ад 20 капеек за штуку. Вялікі асартымент. Складскія рэшткі ў Маладзечне. Запрашаем дызайнераў і будаўнікоў для рэалізацыі смелых арыгінальных рашэнняў. Крама «Сантэхніка плюс», г. Маладзечна, Чкалава, 4. (каля гарадскога стадыёна) ІП Качаткоў В.Б. УНП 690295509. Тэл. для даведак: (8-029)6423464.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**


**АНТЕННЫ СПУТНИКОВЫЕ**
(8029) **762-78-98**
(8029) **332-67-79**
ИП Емельянов А.В. УНП 600361413


**Іншае**

• Дзіцячыя вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.), ровар для двойні або пагодак (40 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Інвалідная каляска для дарослага. Г. Вілейка. Т. (8-025) 7561796.*

### КУПЛЮ

**Будматэрыялы, сантэхніку**

• Арматуру, профільную трубу, вугалок, дошку, брус, крокввы. Т. МТС (8-029) 1110707.*

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2552321.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Слесар-кузаўшчык для рамонту аўтамабіля. Майстэрня ёсць. Т. МТС (8-029) 1110707.*

• Шукаю беларускамоўнага псіхолага ў Маладзечне. Т. (8-029) 8727107.*

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю работу па рамонце халадзільнікаў, маразільнікаў. Запраўка фрэонам. Т. (8-029) 3395974.*

**ПАДАЧА АБ'ЯЎ І РЭКЛАМЫ У БЛІЖЭЙШЫ НУМАР «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ» – да 16:00 серады**

Аддзел рэкламы:
(8-0176) **53-78-04**,
**53-78-06** (факс),
(8-029) **676-84-20, 573-28-47**
E-mail: **reklama@rh.by**


ЭКОНОМЬ со СКИДКАМИ! ООО Проф Вит Юр
**ОКНА** пвх
**ДВЕРИ** металлические межкомнатные
натяжные **ПОТОЛКИ**
20% 30% 40%
РАССРОЧКА КРЕДИТ не выходя из дома
Плати частями до 60 месяцев!
www.vityr.by
Звоните нам! А1 (029) (033) **690-32-22**

**ОКНА ПВХ** по отличным ценам в короткие сроки
ООО «Довтеил» УНП 193092950
Качественный монтаж
Гарантия
Беспроцентная рассрочка
Контактный телефон (А1) +375(29)3371055

**ОКНА ДВЕРИ ПВХ**
Остекленение балконов и лоджий
Отделка балконов под ключ
Отделка откосов • Раздвижные алюминиевые рамы
Тел. МТС (8-029) **541-75-52**
А1 (8-044) **788-04-49**
Рассрочка без банка
ИП Мусская А.В. УНП 692242653

**ОТДЕЛКА ФАСАДОВ ДОМОВ САЙДИНГОМ**
**ОКНА ПВХ**
Рамы алюминиевые
Потолки натяжные
• Монтаж любой сложности
• Корпусная мебель
Скидки до 20%
**ДВЕРИ** металлические межкомнатные
domzastroy.by
Рассрочка без % • Кредит до 60 месяцев без первоначального взноса
Работаем без выходных (8-029) **122-03-83** (8-029) **239-03-83**
ИП Адамович А.Е. УНП 692014185

**ВОКНЫ** танна ад вытворцы
Тэл. (8-029) **394-64-99**
(8-029) **763-00-32**

Натяжные потолки
Рольшторы
8(044)570-13-14
8(033)385-13-14
ИП Козел В.Е. УНП 691517355

Межкомнатные двери
Входные двери
Окна ПВХ
Тел. (8-044) **570-13-14**
(8-033) **385-13-14**
ИП Козел В.Е. УНП 691517355

**Рэклама ў «РГ»**
8 (0176) **53-78-04**
**reklama@rh.by**

**РЕМОНТ** телевизоров телефонов, ноутбуков
ВЫЕЗД: ГОРОД, РАЙОН
8(029)852-52-00

**РЕМОНТ ТЕЛЕВИЗОРОВ И СПУТНИКОВЫХ АНТЕНН**
Тел. (8-029) **561-39-72**
ИП Токмаков Г.В. УНП 692022633

**ЗАПЧАСТИ Б/У к Фольксваген Т4** из Европы в Молодечно
Тел. (8-029) **230-48-52**
(8-033) **383-06-90**
ИП Домнин В.А. УНП 692025579

**КУЗОВНОЙ РЕМОНТ АВТО**
Покраска
Сварочные работы
Тел. (8-029) **168-47-17**
(8-029) **768-47-17**
ИП Навойчик О.В. УНП 692015166

# Пра выкарыстанне электронных накладных

**Новы механізм маркіроўкі тавараў у Беларусі пачынае дзейнічаць ад 8 ліпеня ў сувязі з прыняццем Указа Аляксандра Лукашэнкі ад 6 студзеня 2021 года №9 «Аб змяненні ўказаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь», які ўносіць змены ва Указ Лукашэнкі ад 10 чэрвеня 2011 года №243 «Аб маркіроўцы тавараў кантрольнымі (ідэнтыфікацыйнымі) знакамі» (далей – Указ №243).**

У адпаведнасці з пунктам 3 Палажэння аб маркіроўцы тавараў сродкамі ідэнтыфікацыі, зацверджанага Указам №243, пры выбары сродку ідэнтыфікацыі ўсе ўдзельнікі абароту такой прадукцыі абавязкова павінны будуць выкарыстоўваць электронныя накладныя.

Стварающца, перадающца і атрымліваюцца электронныя накладныя праз сістэму электроннага абмену дадзенымі – Electronic Data Interchange (EDIн) на падставе пагадненняў, якія заключаюць аператар электроннага дакументавароту – рэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і іншыя ўдзельнікі электроннага дакументавароту.

Цяпер аператарамі электроннага дакументавароту (далей – EDI-правайдэры), якія перадаюць і атрыманне электронных накладных, з'яўляюцца шэсць юрыдычных асоб у Беларусі:

– ТАА «Сучасныя тэхналогіі гандлю»;
– ТАА «Электронныя дакументы і накладныя»;
– ТАА «Інфармацыйныя вытворчыя архітэктуры»;
– РУП «Выдавецтва «Белбланкавыд»;
– РУП «Вытворчае аб'яднанне «Беларуснафта»;
– ТАА «Бідмартс».

Удзельнікі электроннага дакументавароту:
– грузаадпраўшчык;
– грузаатрымальнік;
– EDI-правайдэр;
– аўтамабільны перавозчык, у выпадку калі паміж ім, грузаадпраўшчыкам і грузаатрымальнікам, дасягнутае пагадненне аб удзеле ў электронным дакументазвароце.

Для ўдзелу ў электронным дакументазвароце ўдзельнікам неабходна:

– набыць у рэспубліканскім цэнтры дзяржаўнай сістэмы кіравання адкрытымі ключамі сертыфікат адкрытага ключа праверкі электроннага лічбавага подпісу і атрыбутны сертыфікат адказных асоб арганізацыі, індывідуальнага прадпрымальніка (nces.by);

– падключыцца да сістэмы электроннага дакументавароту ў якасці ўдзельніка.

Створаныя электронныя накладныя пры адгрузцы тавараў беларускім арганізацыям, а таксама фізічным асобам, якія займаюцца прадпрымальніцкай і іншай гаспадарчай дзейнасцю, павінны ўтрымліваць рэквізіты, названыя ў структуры і фарматах, устаноўленых пастановай №12/76/42/20.

На афіцыйным сайце Міністэрства па падатках і зборах у раздзеле «Навіны» і на сайце Маладзечанскага райвыканкама ў рубрыцы «Падаткаабкладанне» ёсць пакрокавыя алгарытмы дзеянняў па выкарыстанні электронных накладных.

**Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне.**


• АРМАТУРА
• ТРУБЫ
• МЕТАЛЛОПРОКАТ
• ПРОФНАСТИЛ
РЕЗКА, ДОСТАВКА
Аренда автокрана
г.Молодечно, ул. Рабочая, 8а/1
(8-0176) 58-04-76, 50-56-53
(8-029) 196-90-53 (-23), (-43)
ООО «Молметаллоконтракт» УНП 691398156

П Р О Д А Ж А
ТРУБЫ ПРОФИЛЬНЫЕ
20х20 – 100х100
АРМАТУРА
УГОЛОК
Р Е З К А Б Е С П Л А Т Н О
Тел. (8-029) 556-10-45
(8-029) 656-10-46
(8-0176) 52-14-72
ЧП «Склад металла»
(г. Молодечно, ул. Дудко, 4)
УНП 692247428

УСЁ ДЛЯ МЕТАЛААПРАЦОЎКІ
са склада ў Мінску
рэжучы інструмент, свярдзёлкі, метчыкі, плашкі, фрэзы і г.д.;
слясарны, дапаможны інструмент і прылады
Тэл. (8-017) 374-29-04
347-28-99
E-mail: zamok15@tut.by
ТАА «Белцыс» УНП 192420988

БУРЕНИЕ СКВАЖИН на воду
всех видов
Выгодные цены!
Тел. (8-044) 5486213
ИП Пикулик А.Л. УНП 193411127

БУРЕНИЕ СКВАЖИН
на питьевую воду
Тел. (8-029) 128-78-78
(8-029) 786-03-17
Быстро, недорого,
насосы, колонки, подвод воды к дому без вреда для участка
• Первичный анализ качества воды
• Паспорт скважины
ИП Янцевич А.Г. УНП 590945450

ВАГОНЫ-БЫТОВКИ
Размер 6х2,4 м
Продаем, сдаем в аренду
Возможно изготовление под заказ
Тел. (8-029) 617-08-87
(8-0176) 73-79-78
e-mail: mzstk@tut.by
УП «МЗ Сантехкомлект» г. Молодечно
УНП 600487819

Інжынерна-геалагічныя і геадэзічныя вышукі,
праектныя работы
для прамысловага і грамадзянскага будаўніцтва
МТС (8-029) 277 00 77
(8-029) 323 62 35
FavoritOOO@rambler.ru
ТАА «ГенПраектПлюс» УНП 690690182

ЧИСТКА И РЕМОНТ КОЛОДЦА
КОПКА КАНАЛИЗАЦИИ ВРУЧНУЮ
Тел. (8-029) 216-82-21
(8-044) 467-20-12
ИП Лукша В.В. УНП 591813520

ЧИСТКА
питьевых колодцев
печей • дымоходов
8(033)911-00-29 МТС
ИП Сыманович И.Е. УНП 591336049

ПРИНИМАЕМ МЕТАЛЛОЛОМ!
Молодечненский цех ОАО «Белвторчермет» принимает от населения бытовой лом чёрных металлов по следующим ценам:
МЕТАЛЛОЛОМ СТАЛЬНОЙ – 63 коп. за 1 кг
МЕТАЛЛОЛОМ ЧУГУННЫЙ – 69 коп. за 1 кг
МЕТАЛЛОЛОМ НЕРАССОРТИРОВАННЫЙ – 57 коп. за 1 кг
Расчёты за металлолом производятся в день сдачи!
Адрес цеха: г. Молодечно, ул. Чигуночная, 57
Телефоны: (8-0176) 52-48-45, (8-029) 145-79-20
УНП 100071565

КРЫША
Монтаж новой, демонтаж, ремонт
ОТДЕЛКА САЙДИНГОМ И УТЕПЛЕНИЕ ФАСАДОВ
Пенопласт, вата, декоративка
Тел. (8-029) 264-13-89 МТС
(8-029) 164-13-89 А1
ИП Белугин О.Д. УНП 692252180

Филиалу «Автобусный парк № 5 г. Вилейка» ТРЕБУЮТСЯ:
ИНЖЕНЕР ПО БЕЗОПАСНОСТИ ДВИЖЕНИЯ И ОХРАНЕ ТРУДА
ВОДИТЕЛЬ АВТОМОБИЛЯ КАТЕГОРИИ «С, Д, Е»
Телефоны для справок:
Отдел кадров
(8-01771) 399-35
(8-029) 872-25-64
Отдел перевозок
(8-01771) 399-36,
(8-029) 603-17-12
Приемная (8-01771) 399-02,
(8-029) 243-44-95
УНП 601070208

На постоянную работу в ГУ «Воложинская ветеринарная станция» ТРЕБУЕТСЯ
ВЕТВРАЧ-ГИНЕКОЛОГ
Заработная плата от 1200 руб.
Возможность предоставления жилья
Тел. (8-01772) 55-7-93
(8-01772) 55-5-19
УНП 600212867

Государственному предприятию «Управление капитального строительства Молодечненского района»
ТРЕБУЕТСЯ
ИНЖЕНЕР ПО НАДЗОРУ ЗА СТРОИТЕЛЬСТВОМ
Запись на собеседование по тел. (8-0176) 74-00-94
УНП 600095936

Доброном Копеечка
ПРИГЛАШАЕМ НА РАБОТУ
В НОВЫЕ МАГАЗИНЫ ПО АДРЕСАМ
г. МОЛОДЕЧНО, ул. ЛАРИНА, 1 и ул. ЗАМКОВАЯ, 100
п. ЧИСТЬ, пер. ПАРКОВЫЙ, 1
ДИРЕКТОРА МАГАЗИНА з/п от 1700-2100 руб.
ЗАВЕДУЮЩИХ ОТДЕЛОМ з/п от 850-1200 руб.
СТАРШИХ КАССИРОВ з/п от 750-1100 руб.
КОНТРОЛЕРОВ-КАССИРОВ з/п от 700-990 руб.
ПРОДАВЦОВ з/п от 650-900 руб.
ГРУЗЧИКОВ з/п от 750-900 руб.
УБОРЩИКОВ ПОМЕЩЕНИЙ з/п от 600-700 руб.
* з/п указаны до вычета налогов
7470,
+375 (29) 677-18-23
HR@dobronom.by
ЗАО «Доброном» УНП 191178504

Требуется
ВОДИТЕЛЬ с категорией С
на 5-тонный тент
Работа разъездная по Беларуси
Опыт работы обязателен
Зарплата от 1000 рублей
Тел. (8-029) 343-95-72 Дарья
Звонить в будни с 10 до 16 часов
ИП Вашкевич Г.В. УНП 692012259

БЛОКИ ГАЗОСИЛИКАТНЫЕ
Доставка
Тел. (8-044) 762-61-13
(8-044) 763-00-32
ОДО «Белокно» УНП 690536156

БЛОКИ ГАЗОСИЛИКАТНЫЕ
с доставкой и выгрузкой
Можно в кредит до 36 мес.
Тел. (8-044) 751-62-44
ИП Кирик Е.А. УНП 591819465

Он улетел. Приезжай. Не забудь взять перфоратор на koff.by!
Тел. (8-029) 64-007-64
ИП Кочетков В.Б. УНП 690295509
ПРОКАТ ИНСТРУМЕНТА
Молодечно, ул. Чкалова, 4


Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Астравец | -01591, | Вілейка | -01771, |
| Ашмяны | -01593, | Маладзечна | -0176, |
| Валожын | -01772, | Мядзел | -01797, |
| | | Смаргонь | -01592. |


ЧАСТНОЕ ПРЕДПРИЯТИЕ ДАРИДА DARIDA ПРИГЛАШАЕТ НА РАБОТУ:
• ГРУЗЧИК-КОМПЛЕКТОВЩИК – 8-029-110-39-43, Людмила Викторовна
• УБОРЩИК служебных помещений
• ДВОРНИК – 8-029-115-29-77, Елена Михайловна
• МЕРЧЕНДАЙЗЕР (Минск) – 8-044-564-42-96, Ирина Леонгиновна
• ВОДИТЕЛЬ ПОГРУЗЧИКА (производство) – 8-044-798-17-97, Евгений Павлович
• КЛАДОВЩИК (склад сырья и материалов) – 8-044-742-00-12, Марина Сергеевна
УНП 100162220
resume@darida.by аг. Ждановичи, ул. Линейная, 1 "А"

Частному предприятию «Стеклянный город» в цех кованных изделий требуются:
СВАРЩИК
возможно учеником, з/п от 900 руб.
СЛЕСАРЬ
возможно учеником, з/п от 700 руб.
Рабочий день с 8 до 17.00, д. Тюрли
Хорошее транспортное сообщение (городские автобусы) • Работа в крытом отапливаемом помещении • Соц. пакет • Зарплата на период обучения 500-700 рублей
Без вредных привычек
Тел. (8-029) 661-37-82
УНП 691503822

Производству жилых домов ModulArtHouse.by в г.Молодечно
ТРЕБУЮТСЯ ПРОФЕССИОНАЛЫ СВОЕГО ДЕЛА!
СТОЛЯР-ПЛОТНИК и СВАРЩИК-СЛЕСАРЬ ПОЛУАВТОМАТОМ MIG
Требования к кандидатам: Специалист, которому под силу любая производственная задача. Владеет разнообразным инструментом: болгаркой, торцевой пилой, шуруповертом и краскопультом. Имеет опыт работы по специальности не менее 5 лет.
Должностные обязанности: Сборочно-сварочные работы по производству металлокаркасов жилых модулей, столярные и плотницкие работы по высококачественной отделке стен и перегородок.
Компания предлагает: от 1000 до 1500 р. на руки в зависимости от результата и участия.
Тел. (8-029) 350-43-48
ИП Артамонов А.В. УНП 692181687

# Якія жывёлы зніклі і якіх стала больш у маёй вёсцы за 20 год

**У №24 «Рэгіянальнай газеты» апублікаваны артыкул «Гэтыя птушкі і грызуны амаль цалкам зніклі ў Беларусі». У ім паднялі праблему аб знікненні некаторых птушак і грызуноў у нашай краіне.**

Але названыя віды жывёл і раней сустракаліся вельмі радка, і пра іх мала хто ведаў.

**А вось цяпер многія віды птушак, якія яшчэ гадоў 15–20 таму сустракаліся паўсюдна і ў немалой колькасці, у нашай мясцовасці, мабыць, зніклі.**




Шэрая варона.

Я з жонкай ужо амаль 20 гадоў пастаянна жыву на сваёй малой радзіме – вёсцы Навасёлкі Маладзечанскага раёна. Гэта недалёка ад Дубрава. Краявіды нашы маляўнічыя, паўсюдна ўзгоркі, парослыя лесам, хмызняком і разнатраўем. Ёсць рачулкі, з іх найбольш вядомыя Заходняя Бярэзіна і Уша. У трох кіламетрах адсюль знаходзіцца ландшафтны заказнік «Бортнікі».

Я не заолаг і тым больш не арнітолаг, але пра жыццё птушак і іншых жывёл ведаю нямала. Пачнём з сямейства крумкачовых. Напрыклад, шэрая варона. Яе не так даўно можна было ўбачыць у любым месцы. Сялілася звычайна на высокіх дрэвах блізь чалавечага жылля. І, мабыць, не толькі шкоду прыносіла іншым птушкам, крадучы ў іх яйкі і птушанят. Але і карысць, знішчаючы шкодных насякомых.

Нядаўна быў у сталіцы і са здзіўленнем назіраў за варонай, якая ў цэнтры горада спакойна прагульвалася па скверы вуліцы Камсамольскай.

З гадоў дзесяць таму ў цэнтры Дубрава, дзе расце шмат пасаджаных ліп і іншых дрэў, кожную вясну стаяў птушыны гвалт. Гэта гракі будавалі мноства гнёздаў і выседжвалі птушанят. Цяпер жа там ні гракоў, ні гнёздаў. Прапалі і галкі. Рэдка сустрэнеш сароку.

Я заядлы грыбнік, і раней заўсёды, ідучы па лесе, чуў, як сарокі разносяць стракатаннем весткі аб маім з'яўленні. Цяпер рэдка іх пачуеш, як і дзятла, які стукае сваёй дзюбай па дрэвах. Вось крумкачоў стала, па назіраннях, больш.

**У апошнія гады павялічылася і колькасць драпежных птушак – каршуноў, ястрабаў, іншых. Яны сталі праблемай для жыхароў, якія трымаюць дамашніх птушак.**

Яшчэ з дзяцінства захапляўся спевамі жаўрукоў, што лятали высока ў небе. Ужо многія гады гэтых спеваў я не чуў, як і кнігавак. Яны ляталі над забалочанымі мясцінамі і выдавалі свае непаўторныя гукі.

Пакінулі нашу мясцовасць і ластаўкі, хаця тры-пяць гадоў таму іх было шмат, нават на нашым доме ляпілі гнёзды. Аднойчы ў звычайна адчыненыя сенцы пачала лятаць ластаўка, хацела пабудаваць сабе гняздо.

Не бачна і сіпавак, якія раней часта з'яўляліся на падвор'і і трэслі сваім хвосцікам. Даўно не бачыў аўсянак і мухаловак. Менш чутна салаўіных трэляў.

Аднак адзначу, што яшчэ ў вялікай колькасці водзяцца шпакі, якія, праўда, рана злятаюць – недзе ў сярэдзіне чэрвеня. А яшчэ – вераб'і. Яны сталі надта небаязлівымі, што павялічвае для іх рызыку стаць ахвярай катоў. Не прапалі і сініцы, якія мне, як пчалаводу, бывае, замінаюць.

Прыемна назіраць за буслямі, іх колькасць наўрад ці стала меншай.

Ну а што датычыцца грызуноў, то, здаецца, у нашай рэчцы Заходняя Бярэзіна знікла андатра, хаця раней вадзілася. Затое размножыліся бабры, якія ў некаторых месцах перакрылі рэчку, зрабіўшы невялікія вадасховішчы, якія радуюць вока. Але, мабыць, частка іх гіне ад рук зламыснікаў. Цікава даведацца, якая існуе за гэта адказнасць па заканадаўстве.

**З іншых відаў жывёл у апошні час з вялікай хуткасцю распладзіліся малюскі, асабліва слімакі.**

Яны паўсюдна і ў лясах, і на лугах, і на прысядзібных надзелах. Многа, праўда, іх гіне пад коламі аўтамабіляў. Лічу, што ўсё ж галоўная прычына знікнення некаторых відаў птушак – гэта гаспадарчая дзейнасць дзяржаўных і прыватных гаспадарак, якія не шкадуюць атрутных і іншых хімічных сродкаў для барацьбы з пустазеллем і шкоднікамі раслін.

У заключэнне хачу сказаць, што калі не будзе птушак і іншых нашых меншых сяброў, то наша жыццё ўжо будзе менш цікавым. Зберагчы прыроду і яе насельнікаў – гэта адна з самых актуальных задач.

**Леанід ЖЫТКЕВІЧ,**
**вёска Навасёлкі-1 Маладзечанскага раёна.**

*У наступных нумарах газеты ліст пракаментуе дырэктар грамадскага аб'яднання «Ахова птушак Бацькаўшчыны».*

# Што рабіць, калі лісы панадзіліся паляваць вясковых курэй

**Жыхарка вёскі Сечкі Палачанскага сельсавета паскардзілася, што ў іх мясцовасці актывізаваліся лісы.**




Ліса ў прыродзе.

– Няма ад іх ніякага паратунку, – расказвае мясцовая жыхарка. – Па нашай вёсцы шастаюць толькі так. У нас было ў гэтым годзе 32 курыцы, чатыры ўжо лісы з'елі. У суседзяў таксама – у каго колькі. Усяго па вёсцы можа штук 40 курэй лісы сцягнулі. Можа, паляўнічым ужо нявыгадна ліс страляць, бо ніхто з іх футра не носіць?

Гаспадыня расказвае, што лісы завітвалі ў вёску і зімой, і ў мінулым годзе. Звярталіся з праблемай у сельвыканкам. Там паабяцалі выклікаць паляўнічых. Сапраўды, паляўнічыя прыязджалі, але сітуацыю гэта асабліва не палепшыла.

> – Ніякай выгады трымаць гаспадарку з такімі гасцямі, – падсумоўвае жыхарка.

### Куды звяртацца ў такіх выпадках

Галоўны ляснічы Маладзечанскага лясгаса **Андрэй Шыбека** пракаментаваў сітуацыю.

– Колькасць ліс, як і іншых жывёл, нераўнамерная па гадах. Гэта натуральны працэс. У параўнанні з паказчыкам пяцігадовай даўніны, ліс на Маладзечаншчыне стала больш. Натуральна і тое, што лісы шукаюць ежу там, дзе яе лёгка здабыць. І смялей заходзяць на падворкі жыхароў.

Колькасць ліс, як і іншых відаў, можа змяняцца ў межах прыкладна 20% з году ў год. У 2019 годзе на тэрыторыі Маладзечанскага лясгаса зарэгістравалі 96 ліс, у 2020 – 120, сёлета налічваюць 112. На змяненне колькасці ўплываюць абставіны з кормам, хваробы, надвор'е.

У выпадках, калі вы заўважаеце, што ў вашай мясцовасці тыя ці іншыя жывёлы сталі вельмі актыўнымі, падыходзяць да жылля і ствараюць небяспеку людзям або гаспадарцы, звяртайцеся ў лясгас, інспекцыю аховы прыроды або да мясцовай улады. Па вашай заяўцы арганізуюць рэйдавыя мерапрыемствы па рэгуліроўцы колькасці жывёл.

### Ліс больш не стала

Дырэктар Маладзечанскай раённай арганізацыйнай структуры Беларускага аб'яднання паляўнічых і рыбаловаў **Дзмітры Бобрык** заўважыў, што ліс на тэрыторыі паляўнічых угоддзяў за апошні час наадварот стала менш.

Вёска Сечкі ўваходзіць у тэрыторыю ўгоддзяў, што арандуе маладзечанскае БАПР. Але па законе паляванне забаронена на тэрыторыі населенага пункта і на 200 метрах да яго. Таму дырэктар раіць звяртацца ў сельвыканкам, які пасля выклікае камунальную службу. Камунальнікі маюць права выкарыстоўваць адмысловую зброю і выкарыстоўваць яе ў населеным пункце.

Дзмітры Бобрык звярнуў увагу і на тое, што жыхары могуць знішчыць драпежную жывёлу на сваім падворку, але не агульнанебяспечным спосабам. Напрыклад, з пасткамі варта быць асцярожнымі, у іх могуць трапіць дамашнія жывёлы. Некаторыя гаспадары, калі заўважаюць лісу на падворку, забіваюць яе палкай.

> **Прадстаўнікі арганізацыі ў гэтым годзе здалі ў ветэрынарную станцыю каля 30 галоў ліс, летась адстрэлілі каля 150.**

Дзмітры Бобрык пагаджаецца і з тым, што паляўнічым стала менш цікавасці здабываць пушніну – яна цяпер незапатрабаваная. Але, па яго меркаванні, калі паляўнічы будзе мець магчымасць здабыць лісу, то не прапусціць яе.

### Што пра ліс думаюць паляўнічыя

Мы паразмаўлялі з двума паляўнічымі, якія адзначылі, што гатовыя далучацца да паляванняў, у тым ліку на ліс. Але не так проста атрымаць пуцёўку на паляванне. «Хацелася б больш свабоды і даверу да паляўнічых», – дадалі суразмоўцы.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## На Вілейшчыне ўжо ёсць лісічкі

**У гэтыя выхадныя маладзечанка Валянціна Сопат разам з дачкой Аляксандрай гасцявалі на Вілейшчыне ў вёсцы Ярмолічы. На раніцу пайшлі ў лес. Як аказалася, тут ужо растуць лісічкі.**

– Я заўзятая грыбніца, – расказвае Валянціна. – Таму раніцай у нядзелю выправіліся пайсці ў лес, што побач з вёскай Ярмолічы, каля Вілейскага вадасховішча. Там і назбіралі лісічак. А пасля зварылі з іх суп.

> **Па словах Валянціны, іншых грыбоў у лесе не знайшлі, ды і лісічак няшмат. Каб былі дажджы, грыбоў было б куды больш, перакананая суразмоўца.**

Дарэчы, суніц на ўзлесках, па словах Валянціны, таксама пакуль няма.

Валянціна Сопат – супрацоўніца ГРАНС Маладзечна. Таму яна нагадвае нашым чытачам не забываць пра пажарную бяспеку ў лесе.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Лісічкі ў лесе каля вёскі Ярмолічы.

# Што звязвае вёску Батурына на Вілейшчыне з нямецкім горадам Мюнхенам

ВІЛЕЙКА

**Звязвае гэтыя два, падаецца, далёкія паселішчы асоба пісьменніка, вайскоўца, журналіста, дзеяча БНР Пятра Сыча.**

Наш герой нарадзіўся ў вёсцы Батурына на Вілейшчыне, вучыўся ў Вільні, сядзеў у турме ў Вілейцы і Комі, ваяваў пад Монтэ-Касіна, быў членам згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, а памёр у нямецкім горадзе Мюнхене. 20 чэрвеня быў дзень памяці Пятра Сыча. Прапануем вам прыгадаць земляка.

### Прыгожа маляваў, пісаў вершы, любіў мастацкую самадзейнасць

У Батурыне ў 1912 годзе Пётр Сыч нарадзіўся ў сям'і вяскоўцаў – **Мар'яна** і **Марыі Сычоў**. Тут жа, у Батурыне, пасля пэўны час жыў і працаваў дарожным рабочым. Тут нарадзіліся яго дочкі – **Марыя** і **Браніслава**.

**Спачатку Пётр вучыўся ў гімназіі ў Вілейцы, якую скончыў у 1929 годзе. Пасля – два гады на філалагічным факультэце Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя.**

Але навучанне кінуў. Краязнаўца **Уладзімір Кажамяка** кажа, што Сыч не змог давучыцца, бо ў Батурыне сур'ёзна захварэла яго маці. Таму ён вяртаецца ў вёску, дзе і працуе дарожным рабочым.

Пры сустрэчы ў 2011 годзе дачка Пятра Сыча Браніслава распавядала Кажамяку пра бацьку толькі тое, што ведала ад маці. Бо яна нарадзілася ў 1937-м і бацькі не памятала. Ад яе стала вядома, што бацька ўмеў прыгожа маляваць, пісаў вершы. У 1932 годзе першы раз надрукаваўся. Любіў мастацкую самадзейнасць, ладзіў выступленні ў Батурыне, заўсёды выступаў сам і далучаў да самадзейнасці вясковую моладзь. У Батурыне пазнаёміўся з **Ганнай Дзік**, што паходзіла з вёскі Дварэц каля Хаценчыцаў. З ёй ажаніўся.

### Сваёй другой дачкі ніколі не бачыў

У 1939 годзе Сыча мабілізавалі ў Войска Польскае. Ён апынуўся ў дзясятым батальёне Корпуса аховы памежжа. Трапіў у савецкі палон, адкуль уцёк. Але ў кастрычніку 1939 года Сыча зноў арыштавалі і пасадзілі ў вілейскую турму. Вядома, што арыштавалі яго ў Ілы. Маглі б забраць і яшчэ раней, але ён доўгі час хаваўся, піша ў адным са сваіх артыкулаў ільянскі краязнаўца Уладзімір Кажамяка.

**У чэрвені 1940 года арыштанта перавялі ў турму ў Полацк і асудзілі на дзесяць гадоў прымусова-праўчых работ і вывезлі ў Комі АССР.**

Калі арыштавалі Сыча, хацелі выслаць і яго жонку з малымі дочкамі. Малодшая, Марыя, нарадзілася ў 1940-м, і бацька яе ніколі не бачыў. Але, па чутках, за сям'ю заступіўся нейкі ўплывовы вясковец. І ўсё ж, па ўспамінах дачкі, яны чакалі высылкі кожную хвіліну, а маці сушыла сухары.

### Італія, Вялікабрытанія, Германія...

Сам Пётр прабыў у савецкім лагеры да канца 1941-га. А пасля патрапіў у армію генерала Андэрса. У 1942-м яго залічылі ў склад 23-га батальёна сёмай пяхотнай дывізіі, якая была расквартараваная ў мястэчку Кермінэ (Узбекская ССР).

**Пасля ў выніку рэарганізацыі арміі Сыч быў накіраваны ў транспартную роту другога Польскага корпуса. У чыне паручніка ўдзельнічаў у баях пад Монтэ-Касіна, Анконай, Балонні, быў чатыры разы паранены.**




Фота з архіва «РГ».

Так выглядае дошка ў гонар Пятра Сыча, што ў 2015 годзе ўсталявалі на доме яго дачкі ў Лукаўцы. Хаты ў Батурыне, дзе жыў Пётр з сям'ёй, ужо даўно няма.

Пра бai пад Монтэ-Касіна Пётр Сыч напісаў мемуарную аповесць «Смерць і салаўі». Аповесць засталася няскончанай з-за раптоўнай смерці пісьменніка. Даследчыкі сцвярджаюць, што «Смерць і салаўі» – адзіны літаратурны твор, напісаны непасрэдным удзельнікам штурму ўзвышша Касіна.

У 1946 годзе Пётр пераязджае ў Вялікабрытанію як вайсковец, а праз два гады пераведзены ў рэзерв. Быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, актыўны аўтар і супрацоўнік часопіса «Беларус на чужыне». Быў таксама сябрам Рады БНР.

У 1951 годзе пераехаў у Заходнюю Германію. Быў адным з заснавальнікаў і першым супрацоўнікам Радыё Свабода. У Германіі наш зямляк ажаніўся з немкай Эльзай. Дзяцей яны не мелі. А першая жонка замуж больш не выйшла. Бо, па словах Браніславы Пятроўны, вельмі кахала Пятра.



Фота hantdin.livejournal.com.

Адзін з малюнкаў Пятра Сыча.

### Пісаў па-беларуску і вельмі прасіў дочак вучыцца

Па ўспамінах дачкі, бацька з Вялікабрытаніі і Германіі пісаў ім лісты ў Лукавец. Тут Ганна з дзецьмі жыла пасля вайны. Маці тады выклікалі ў сельсавет і там давалі чытаць гэтыя лісты. Першы ліст ад Пятра прыйшоў у 1949-м. Маці напісала бацьку адказ, але ён, відаць, гэты ліст не атрымаў. Другі ліст напісала дачка Броня. Ён дайшоў, і бацька адказаў. Пётр пісаў па-беларуску і вельмі прасіў дочак вучыцца. Цытата з ліста прыведзеная ў кнізе Уладзіміра Кажамякі «Не пакідаюць нас белыя лебедзі»: «Толькі добра вучыцеся, дачушкі. Я ведаю шэсць моў». Больш родныя ў замежжа лістоў не пісалі. Небяспечны гэта быў занятак. Не раз у сям'ю прыходзіла кампанія – участковы, а з ім двое.

**Яны цікавіліся, як жывуць Сычы, раілі запрашаць бацьку вярнуцца, бо ў Савецкім Саюзе вельмі шчаслівае жыццё.**

Але на радзіму ён так і не вярнуўся. У 1963 памёр у шпіталі ў Мюнхене. Раптоўна спынілася сэрца. Пахаваны на старых могілках у Мюнхене. Рэабілітавалі Пятра ў 1989-м.

У 2015 годзе ў Лукаўцы на доме яго дачкі ўсталявалі мемарыяльную дошку ў гонар пісьменніка, мастака, героя Монтэ-Касіна.

Падрыхтавала
**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Дайджэст. Санкцыі, новы штам каронавіруса ў Беларусі, забароны на БЧБ і «Жыве Беларусь»

**«Рэгіянальная газета» расказвае, што адбылося ў Беларусі і свеце за апошні тыдзень.**

### У Маладзечне людзей асудзілі за акцыю

За акцыю каля помніка пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі двум маладзечанцам прысудзілі суткі адміністрацыйнага арышту.

**Пётр Дыко атрымаў 15 сутак арышту, а Жанна Пілючонак – 25 сутак.**

Яшчэ дзвюх жанчын, у якіх былі непаўнагадовыя дзеці, у нядзелю адпусцілі з аддзялення. Пра суды над імі пакуль нічога невядома.

У нядзелю, 20 чэрвеня, ля помніка пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі, па меркаванні супрацоўнікаў міліцыі, прайшла несанкцыянаваная акцыя. Людзей, што знаходзіліся побач, затрымалі міліцыянеры. У аддзяленне міліцыі таксама былі дастаўленыя два карэспандэнты «Рэгіянальнай газеты», што знаходзіліся ля помніка. Журналістаў вызвалілі з РАУС праз дзве гадзіны.

**Аддзел інфармацыі.**

### Беларусь адзіная ў ААН прагаласавала супраць рэзалюцыі па М'янме

18 чэрвеня Генеральная асамблея ААН прыняла рэзалюцыю па сітуацыі ў М'янме. У лютым у М'янме адбыўся вайсковы пераварот.

Рэзалюцыя заклікае да аднаўлення дэмакратычнага працэсу і павагі да правоў чалавека. 119 краін прагаласавалі «за», 36 устрымаліся – сярод іх Кітай, Расія і Індыя. І толькі адна краіна прагаласавала супраць – гэта Беларусь.

Рэзалюцыі ААН маюць сімвалічны характар. Для прыняцця рэальных мер трэба рашэнне Рады бяспекі, а там Кітай і Расія маюць права вета.

Пераварот у М'янме адбыўся 1 лютага. Армія адмяніла вынікі выбараў пасля таго, як другі раз запар партыя, якая мае падтрымку вайскоўцаў, атрымала абсалютную меншасць галасоў. Дзяржаўны дарадца **Аўнг Сан Су Чжы** і іншыя лідары партыі-пераможцы застаюцца пад арыштам.

**Паводле «Нашай Ніве».**

### У Мінску выявілі індыйскі штам COVID-19

Міністэрства аховы здароўя Беларусі паведамляе, што ў Мінску выявілі індыйскі штам (Дэльта) каронавіруса. У іншых рэгіёнах краіны штам не выяўлены.

У Міністэрстве аховы здароўя адзначылі, што ёсць падставы меркаваць, што «індыйскі» варыянт можа больш эфектыўна распаўсюджвацца ў параўнанні з іншымі варыянтамі віруса, аднак на дадзены момант няма звестак пра тое, што гэты варыянт выклікае больш сур'ёзнае захворванне.

Зараз «індыйскі» штам атрымаў шырокае распаўсюджанне не толькі ў Індыі, але і краінах Еўропы, выцесніўшы «брытанскі» штам.

**Паводле Мінздароўя Беларусі.**



Фота Настассі УГНІНАЙ.

Падчас затрымання на акцыі 20 чэрвеня.

### МУС прапанавала ўключыць БЧБ-сцяг і лозунг «Жыве Беларусь» у пералік нацысцкай сімволікі і атрыбутыкі

У КДБ Беларусі паступіў на ўзгадненне праект акта МУС «Аб вызначэнні пераліку арганізацый і іншых структур, нацысцкай сімволікі і атрыбутыкі». Пра гэта піша ў сваім тэлеграм-канале Беларускі саюз журналістаў.

Дакумент змяшчае пералік нацысцкай (калабарацыянісцкай) сімволікі і атрыбутыкі, у яго прапануецца ўключыць бел-чырвона-белы сцяг і лозунг «Жыве Беларусь».

**Паводле БСЖ.**

### ЕС зацвердзіла чацвёрты пакет санкцый

21 чэрвеня на пасяджэнні ў Люксембургу міністры замежных спраў Еўрасаюза зацвердзілі чацвёрты пасля прэзідэнцкіх выбараў 2020 года ў Беларусі пакет санкцый.

Санкцыйны спіс складаецца з 78 чалавек і 8 арганізацый, якім замарожваюцца активы і забараняецца выдача віз у ЕС. У спісе сярод фізічных асоб ёсць суддзі, следчыя, пракуроры, дэпутаты, супрацоўнікі дзяржаўных СМІ, члены адміністрацыі ВНУ, чыноўнікі, функцыянеры, бізнесмены.

ЗША, Вялікабрытанія і Канада падтрымалі санкцыі.

**Паводле «Радыё Свабода».**

# Што варта ведаць пра бензаінструмент

**Усе паспяховыя людзі так ці інакш прыходзяць да бензаінструмента, і… да праблемы валодання ім: карыстанне, абслугоўванне, эксплуатацыя. Чаму?**

Таму што поспех у нашым грамадстве часцей за ўсё звязаны з пакупкай дома, участка зямлі, будаўніцтвам. А там, дзе ёсць зямля і будаўніцтва, без бензаінструмента амаль ніяк.

**Можна, вядома, часам замяніць бенза- на электра-, але тады трэба цягаць за сабой правады, ды і па магутнасці бенза- перасягае бытавую электрыку.**

Пералічу найбольш папулярныя бензаінструменты і абсталяванне.

**Генератары**. Выпрацоўваюць электрычнасць з бензіну. Пры дапамозе іх ужо можна карыстацца звыклымі дэвайсамі. Падыходзяць у пачатку будаўніцтва, там дзе няма яшчэ электрычнасці. Або на прыродзе, для адпачынку. Або на могілках пры добраўпарадкаванні месцаў пахаванняў.

**Мотаблокі-культыватары** – бензінавыя памочнікі па апрацоўцы глебы.

**Трымеры** – косы або газонныя касілкі. Дапамагаюць справіцца з раслiннасцю на ўчастку. Можна, вядома, абысціся электрычнымі аналагамі, але гэта калі ўчастак 1-2 соткі, ды і нязручнасць цягаць за сабой правады ніхто не адмяняў.

**Вібрапліты-трамбоўкі**. Дазваляюць ушчыльніць пясок, зямлю, сухую растворную сумесь пры добраўпарадкаванні тэрыторыі ўчастка: тратуарныя дарожкі, двары, заезды на двор.

**Гэтыя асноўныя бензінавыя інструменты і абсталяванне звычайна патрэбныя ў гаспадарцы рэдка і перыядычна.**

Напрыклад, культыватар для апрацоўкі глебы патрэбны ўсяго толькі раз-два ў год, вясной і восенню. Таму набываць, утрымліваць і абслугоўваць такога дарагога памочніка сэнсу асаблівага няма, калі маецца паблізу добры і адэкватны пракат. У Маладзечне ён знаходзіцца па адрасе: вуліца Чкалава, 4 – каля гарадскога стадыёна.

У наступным артыкуле пазнаёмімся з асноўнымі прынцыпамі заводкі і працы бензінавых двухтактных і чатырохтактных рухавікоў, якія ўстаноўлены на ўсіх гэтых незаменных у сучасных гаспадарках дэвайсах.




Генератар.



Мотаблок-культыватар.



Трымер.

Фота rinfarp.by, ek.ua, stpulscen.ru, umservice.com.ua.



Вібрапліта-трамбоўка.

ПРОКАТ ИНСТРУМЕНТА
Молодечно, ул. Чкалова, 4
Он улетел. Приезжай. Не забудь взять перфоратор на koff.by!
Тел. (8-029) 64-007-64
ИП Кочетков В.Б. УНП 690295509

# Ці дазволіце вы расправіць сабе крылы і перастаць адседжвацца на лаўцы запасных?

## Пра што гавораць з гледачамі скульптуры Аляксандра Фінскага

**Выстава графікі і скульптуры Аляксандра Фінскага «Спявак культуры краю» працуе ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі да 11 ліпеня.**

Адкрыццё выставы адбылося ў межах XX Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі.

### Адкуль вы ведаеце працы Аляксандра Фінскага

Аляксандр Фінскі – беларускі скульптар, прафесар кафедры скульптуры Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

У Маладзечне знаходзяцца дзве яго скульптуры. На ўездзе з боку Мінска – «Маці Божай Пакровы». Гэты ж сімвал размешчаны на гербе Маладзечна. А каля гасцініцы – помнік на экалагічную тэму «Зямля і неба».

Ён таксама аўтар помніка Максіму Танку ў Мядзеле, Адаму Міцкевічу ў Мінску, мемарыяла «Яма. Мінскае гета», знака «Нулявы кіламетр» на Кастрычніцкай плошчы.

### Дазвольце сябе здзівіць

На выставе вы знойдзеце скульптуры з металу і дрэва, а таксама графічныя працы. Яго графіка адметная тым, што звязаная са скульптурай, шмат у чым скульптурная і таму такая цікавая. Некаторыя з графічных прац Фінскага пасля і становяцца скульптурамі.

Пра мастака і яго творы расказала навуковы супрацоўнік Мінскага абласнога краязнаўчага музея **Таццяна Беразавец**:

– У нас узнікла ідэя запрасіць на фестываль скульптара з тым, каб зладзіць яго персанальную выставу. І ён на нашу прапанову адгукнуўся. Скульптуры складана экспанаваць, але мы знайшлі магчымасць здзівіць нашых жыхароў. Сам жа Аляксандр Фінскі патлумачыў, што размаўляе з гледачом метафарамі.

Навуковы супрацоўнік раскрыла некаторыя метафары для чытачоў «РГ». Напрыклад, скульптура «Лаўка запасных» адразу выклікае асацыяцыю са спортам. Але насамрэч гэта пра тых людзей, якія ўсё жыццё чагосьці чакаюць. Чакаюць, што ім хтосьці нешта скажа, калі ім стане зручна зрабіць жаданае. І з-за свайго вечнага чакання яны застаюцца плоскія, несфарміраваныя, усё сядзяць і чакаюць.

Скульптура «Трэцяе пакаленне» дэманструе тое, што толькі ўнукі рабоў могуць быць па-сапраўднаму свабоднымі. «Час збіраць камяні» – у кожнага чалавека надыходзіць такі час, калі даводзіцца збіраць камяні. Якім жа гэты камень акажацца – цяжкім, лёгкім, цікавым, прыгожым – залежыць ад самога чалавека.

Многія скульптуры Фінскага прысвечаны творчым людзям, асабліва музыкам. Творца заўважае, што калі б не быў скульптарам, то стаў бы музыкантам. На выставе ёсць скульптура Уладзіміра Мулявіна. Яна ўвасабляе імкненне да палёту і тое, што музыка сышоў з жыцця рана, не паспеўшы зрабіць яшчэ многія справы, а яго душа палялела. Скульптура «Вячэрні блюз» паказвае стан свабоды, калі творца можа ўвасабляць усё, што лічыць патрэбным.

Праца «Вясна» адлюстроўвае пачатак жыцця, які зараджаецца ў прыродзе і жанчыне. «Анёл-ахоўнік» – пра тое, што ў кожнага ёсць анёл, які расправіць чалавеку крылы. І толькі ад нас залежыць, ці захочам мы гэтыя крылы расправіць.

Скульптура «Кола лёсу» адлюстроўвае двух людзей, паміж якімі нажытае імі кола. Яны пражылі доўгае жыццё, пакінуўшы на гэтым коле як гладкія, так і паламаныя спіцы. А само кола іх адначасова і злучае, і раз'ядноўвае.

Праца «Сям'я» ўнутры выглядае дасканала гладкай. Гэта адлюстроўвае стан, да якога мы імкнёмся ў нашай сям'і. Але звонку на нас уздзейнічаюць знешнія фактары. Таму мы ў сваёй сям'ёй тулімся адзін да аднаго і беражом ад таго, што звонку.

Скульптура «Экасістэма» знешне нагадвае ліст, на якім сядзіць вусень. Але калі прыгледзецца збоку, то вусень пераўтвараецца ў людзей.

Праца, якая нагадвае шараг цвікоў, паказвае, як змяняюцца людзі цягам жыцця. Спярша ўсе падобныя, ходзяць у садок, школу.



Фота Настассі УТКІНАЙ.





Творы Аляксандра Фінскага «Лаўка запасных», «Максім Танк», «Экасістэма».

Але пасля жыццё змяняе кожнага – кагосьці ламае, хтосьці можа супрацьстаяць. І кожны становіцца індывідуальнасцю.

Скульптуры з ясеню захапляюць як ідэяй, так і тэхнікай выканання. Калі мастак стварае твор, то ён штрыхі альбо мазкі кладзе па форме. У Фінскага структура дрэва ідзе па форме скульптуры, кожная прыродная лінія дапаўняе задуму скульптуры.

Праца «Дзяўчына і кошка» нагадвае пра тое, што пластыка маладой дзяўчыны нагадвае пластыку коткі. Гэта з цягам жыцця цела мяняецца, і пластыка таксама. Твор «Наш дом» адсылае да павер'я, што першай у новае жыллё павінна зайсці кошка.

Скульптура «Максім Танк» на першы погляд можа падацца звычайнай выявай паэта, але і тут не ўсё проста. Фінскі знайшоў фота Яўгена Скурко ў маладосці ў доўгім паліто – на здымку беларускі паэт знешне нагадвае Маякоўскага. Пасля Фінскі даведаўся, што Максім Танк любіў творчасць Маякоўскага. У скульптуры аўтар адлюстроўвае творцу ў той перыяд, калі яго паэзія была на мяжы дазволу. Таму выява Максіма Танка такая – мужчына ў доўгім паліто, які ідзе па тонкім лёдзе.

### Станьце суаўтарам

Пабачыць працы ўжывую можна ў музеі да 11 ліпеня. Можна як заказаць экскурсію, так і паспрабаваць разгадаць метафары самастойна.

– Калі ты проста прыйшоў, разглядаеш працы, звяртаеш увагу на дэталі, разважаеш, што аўтар гэтым гаворыць, то ўдзельнічаеш у стварэнні вобраза, – разважае Таццяна Беразавец. – Магчыма, прыдумаеш тое, што аўтар і не меў на ўвазе. Але менавіта так становішся суаўтарам.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

# Баскетбалістка са Смаргоні выступае за зборную Беларусі на чэмпіянаце Еўропы

**Смаргонская баскетбалістка Юлія Рыцікава гуляе цяпер за зборную Беларусі на чэмпіянаце Еўропы. «Рэгіянальная газета» расказвае пра поспехі гульца на галоўным турніры па баскетболе ў Еўропе.**

17 чэрвеня зборная Беларусі па баскетболе пачала ўдзел у сваім восьмым запар чэмпіянаце Еўропы. У складзе зборнай ёсць гулец, які нарадзіўся ў нашым рэгіёне, – смаргонка **Юлія Рыцікава** (у дзявоцтве – Дурэйка).

**Рыцікава стала капітанам нацыянальнай зборнай Беларусі на гэтым Еўра.**

Перад пачаткам матчаў Рыцікава каментавала ўдзел Беларусі ў чэмпіянаце так:

– Канешне, хвалююча пачынаць чэмпіянат Еўропы з сустрэчы з такім тытулаваным супернікам, як зборная Іспаніі. Да таго ж гаспадынь турніру будуць падтрымліваць мясцовыя заўзятары, што таксама мае значэнне. Аднак, у першую чаргу, мы настройваемся зрабіць сваю працу добра, выканаць трэнерскія ўстаноўкі і выкарыстаць свае моцныя бакі. Не трэба забываць, што гэта жаночы баскетбол, у якім часам вынік можа быць непрадказальным.

**Адно магу сказаць дакладна, мы верым у сябе і настроеныя даць бой аднаму з фаварытаў турніру.**



Фота fiba.basketball.

Юлія Рыцікава ў матчы са Швецыяй.

## Групавы этап пачалі з сенсацыі

Беларусь пачала Еўрабаскет у групе А разам з Іспаніяй (дзейныя чэмпіёнкі Еўропы), Славакіяй і Швецыяй. Іспанія і Францыя ў гэтым годзе – гаспадыні чэмпіянату Еўропы, групавы этап падзелены паміж краінамі. Беларускі гуляюць у Валенсіі.

У першы дзень турніру беларускі згулялі з іспанкамі – **53:51**. Лепшым гульцом матча стала **Марыя Папова**, якая аформіла 19 ачкоў і 11 падбораў. Гульня для Рыцікавай склалася не вельмі ўдала: баскетбалістка не забіла ні ў адным з момантаў. На асабістым рахунку смаргонкі ёсць 2 падборы, 1 перадача, 1 перахват, 1 страта.

Перамога над іспанкамі стала сенсацыяй, бо эксперты ў адзін голас называлі каманду пад кіраўніцтвам **Лукаса Мандэлы** фаварытам еўрапейскага першынства. Для беларусак гэта аказалася і гістарычная перамога, бо раней зборная Беларусі ніколі не перамагала іспанак на чэмпіянатах Еўропы.

18 чэрвеня Беларусь гуляла са Славакіяй. Сустрэча скончылася паражэннем беларусак – **54:58**. Галоўны трэнер **Наталля Трафімава** і баскетбалістка зборнай **Аляксандра Тарасава** заўважылі, што прычынамі сталі праблемы ў атацы і вельмі кароткі тэрмін адпачынку пасля матча з Іспаніяй. Юлія Рыцікава набрала ў гульні са Славакіяй 4 ачкі, 5 падбораў, 3 перадачы, 4 фалы і 3 страты.

Апошні матч групавога этапу быў вырашальным для зборнай Беларусі. У выпадку перамогі беларускі ідуць далей у плэй-оф, а ў выпадку паражэння – ляцяць дадому. У другім выпадку гэта быў бы трэці чэмпіянат Еўропы для нацыянальнай каманды, калі яна не змагла ўдала скончыць групавы этап.

Вырашальны матч для беларусак праходзіў супраць шведак. Беларусь дамаглася перамогі з буйным адрывам ад сапернікаў – **78:54**. Юлія Рыцікава аформіла 3 ачкі, 3 падборы, 3 перадачы, атрымала тры персанальныя заўвагі.

Такім чынам, Беларусь упершыню з 2015 года выйшла ў чвэрцьфінал чэмпіянату Еўропы.

## Чвэрцьфіналы

Беларусь прайшла ў чвэрцьфінал наўпрост з першага месца. Гэта адбылося дзякуючы перамозе беларусак над шведкамі і іспанак над славачкамі.

Увечары 23 чэрвеня на чэмпіянаце Еўропы стартавалі чвэрцьфінальныя сустрэчы. Беларусь зноў гуляла са Швецыяй, якая дамаглася ўдзелу ў плэй-оф перамогай над Італіяй у кваліфікацыі чвэрцьфіналу.

Іншыя чвэрцьфіналы пройдуць паміж Сербіяй і Іспаніяй, Францыяй і Босніяй і Герцагавінай, Бельгіяй і Расіяй.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Чарговая перамога «Маладзечна», 12 галоў ад «Астраўца» і іншыя вынікі футбольных выхадных

**Маладзечанскія футбалісты зарабілі чарговую перамогу ў чэмпіянаце другой лігі, а вілейчукі саступілі «Адзінству». «Рэгіянальная газета» расказвае, як прайшлі футбольныя выхадныя для камандаў рэгіёна.**

## «Маладзечна» і «Вілія»

20 чэрвеня ў дывізіёне Мінскай вобласці ў групе «Поўнач» прайшлі сустрэчы 8-га тура. «Маладзечна» гуляла супраць смалявіцкага «СМІаўтатранса», матч скончыўся перамогай бела-зялёных **3:0** (60″ – **Артур Сарамаха**, 83″ – **Раман Вінцукоўскі**, 87″ – **Артур Сарамаха**). Сарамаха – лепшы бамбардзір у складзе маладзечанскай каманды, а ў другім дывізіёне ён займае другое месца па колькасці забітых галоў (усяго 11).

«Маладзечна» займае трэцяе месца ў турнірнай табліцы. У бела-зялёных пяць перамог і адно паражэнне.

Наступны матч для маладзечанцаў пройдзе 26 чэрвеня супраць «Уздаў».

Вілейскія футбалісты правялі матч на дамашнім полі супраць дзяржынскага «Адзінства». Лік адкрыў футбаліст «Адзінства» **Аляксандр Церашко**. У другім тайме адзначыліся вілейчукі – на 48″ з пенальці забіў **Аляксей Вышынскі**, на 83″ – **Максім Вітко**. У другой палове сустрэчы галы забівалі і сапернікі вілейскай каманды: 54″ – **Ігар Бобрык**, 76″ – **Максім Градавец**. Сустрэча скончылася з лікам **3:2** на карысць «Адзінства».

«Вілія» – на сёмым месцы ў Мінскім дывізіёне групы «Поўнач». У каманды дзве перамогі і пяць паражэнняў.

27 чэрвеня «Вілія» згуляе на выездзе супраць «Крупак».

## «Астравец» і «ФСК Ашмяны»

19 чэрвеня ў Гродзенскім дывізіёне другой лігі адбыліся два матчы ў камандаў з нашага рэгіёна. «Астравец» прымаў дома ваўкавыскую «Змену» – **12:1**. За «Астравец» забіў сем галоў **Аляксей Хадневіч**, дубль зрабіў **Аляксей Бялевіч**, па голе ад **Дзмітрыя Купнеўскага**, **Сяргея Крата**, **Сяргея Новіка**. За каманду з Ваўкавыска адзначыўся **Ігар Бязносік**.

Аляксей Хадневіч – лідар Гродзенскага дывізіёна па колькасці забітых мячоў. У футбаліста ў шасці матчах іх 20.

«Астравец» займае першае месца ў турнірнай табліцы з шасцю перамогамі.

26 чэрвеня «Астравец» згуляе з «Мастамі».

«ФСК Ашмяны» прайгралі «Лідзе-2» з лікам **1:3**. У першым тайме гульні гол забіў ашмянец **Яўген Кухарчук**, а ў другой палове сустрэчы лідчане пачалі разгром і забілі тры мячы. За лідскую каманду адзначыўся хет-трыкам **Артур Кандратовіч**.

«ФСК Ашмяны» займаюць перадапошняе, 12-е, месца ў турнірнай табліцы. У каманды адна перамога і шэсць паражэнняў.

Наступны матч для «Ашмянаў» пройдзе ў Шчучыне 27 чэрвеня.

## «Смаргонь»

«Смаргонь» працягвае змагацца ў вышэйшай лізе Беларусі. 18 чэрвеня каманда згуляла з брэсцкім «Дынама». Матч скончыўся нічыёй – **2:2**. За «Смаргонь» двойчы забіў **Арсень Бандарэнка** з перадач **Яна Сянкевіча**. У складзе дынамаўцаў адзначыліся **Станіслаў Беленькі** і **Павел Сядзько**.

«Смаргонь» дагэтуль займае перадапошняе месца ў лізе, знаходзіцца ў так званай зоне вылету. У каманды адна перамога, тры нічые, дзевяць паражэнняў.

26 чэрвеня смаргонцы згуляюць дома супраць «Гомеля».

**Настасся УТКІНА.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2 1. Начальнік вайсковай часці, падраздзялення, ваеннага судна.
4. Тонкая абалонка або сумка, якая абвалаквае розныя органы, а таксама і паталагічныя ўтварэнні ў арганізме.
6. Паводле сведкаў працэсу супраць Жанны Д'Арк, у яе былі два віды подпісу. Першым яна давала зразумець, што напісанае варта ўспрымаць літаральна. Другі азначаў непраўдзівасць. Што сабой уяўляў першы подпіс?
9. Аднаразовы рух глытальных мышцаў.
10. Дарэмна, упустую.
11. Спаборніцтва, якое мае на мэце выявіць самых лепшых яго ўдзельнікаў.
12. Канчатковыя паказчыкі якіх-небудзь дзеянняў, з'яў, развіцця.
15. Штучны або радзімы знак, які адрознівае прадметы або істоты ад іншых падобных прадметаў, істот.
17. Струнны шчыпковы музычны інструмент з рэзанатарам у выглядзе васьмёркі і доўгім грыфам.
18. Які мае невялікую працягласць у папярочніку.
22. Перспектыўнае скарачэнне формы прадмета, якое змяншае яго звычайныя абрысы.
24. Па меркаванні Алекса Дрэйера, ... – гэта чалавек, які двойчы падумае, перш чым нічога не сказаць.
25. Чалавек, запрошаны блізкімі ці знаёмымі на якую-небудзь урачыстасць, частаванне.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Рух назад, упадак у развіцці, дэградацыя.
3. Рэчыва з тлушчу і шчолачы, якое лёгка распускаецца ў вадзе і ўжываецца для мыцця.
5. Разрад атмасфернай электрычнасці ў паветры, звычайна ў выглядзе яркай звілістай лініі.
7. Чалавек, які вызначаецца практычным падыходам да жыцця, цвярозымі адносінамі да рэальных абставін.
8. Скручаная ў трубку папера, тканіна, цэлафан.
12. Пранізлівы крык.
13. Рэзкі, кароткі рух.
14. Група людзей, аб'яднаных агульнасцю поглядаў, інтарэсаў.
16. У жыхароў Філіпінскіх астравоў ёсць легенда пра бога Мелу, што стварыў чалавека. Заканчваў яго стварэнне іншы бог, з-за якога першыя людзі ледзь не памерлі падчас першага вялікага дажджу. Што давялося перакуліць дагары нагамі Мелу?
17. Праяўленне мужнасці, стойкасці, самаадданасці ў імя высокай мэты.
19. На значнай адлегласці.
20. Васіль Быкаў: «Кожнаму наканавана прайсці свой шлях да ... асобна».
21. Мастак, які ўмела выкарыстоўвае і спалучае колеры.
23. Складаная, заблытаная справа ў судовай практыцы.
26. Сумесь тлушчу з лекавымі сродкамі для ўціранння ў скуру або для намазвання яе.

## Адказы на крыжаванку з №25

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Умець. 3. Назва. 4. Даход. 6. Вяха. 8. Ужытак. 10. Шафёр. 11. Род. 13. Надзея. 14. Штаны. 15. Хлусіць. 17. Дата. 20. Васількамі. 21. Раствор.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Рэцэнзія. 2. Улада. 5. Вуха. 7. Дублікат. 9. Выгляд. 10. Шорах. 11. Радок. 12. Узор. 16. Вясна. 17. Даспехі. 18. Навес. 19. Дрымота. 22. Водар. 23. Розум. 24. Натоўп. 25. Націск.

## ● ГАРАСКОП НА 25 ЧЭРВЕНЯ – 1 ЛІПЕНЯ



**АВЕН.** У цэлым усё складваецца ўдала. Але павышаная безуважлівасць і няпамятлівасць могуць стаць прычынай маленькіх непаразуменняў. Таму не спадзявайцеся на памяць – запісвайце дату і час усіх важных сустрэч, загадзя складайце спіс неабходных пакупак.



**ЦЯЛЕЦ.** У вашым жыцці з'явіцца бясспрэчны аўтарытэт, да меркавання якога адназначна варта прыслухоўвацца. Магчыма, на працы вас чакае павышэнне.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вам можа адмовіць пачуццё меры, асабліва ў ежы. Сачыце за сваім харчаваннем. Пачакайце з буйнымі і дарагімі пакупкамі адзення і абутку.



**РАК.** Чакаецца шмат дзелавых сустрэч. Перш чым на нешта пагаджацца, цвяроза ацаніце ўласныя магчымасці. Бытавых праблем будзе не пазбегнуць. Выдыхніце, хутка ўсё наладзіцца!



**ЛЕЎ.** Да вашай працы цяпер будзе нямала прэтэнзій. Не спрачайцеся, а выпраўляйце памылкі. Не судзіце строга родных і блізкіх: яны цяпер асабліва ўразлівыя. Як мага больш часу праводзьце на прыродзе. Гэта трэба як для здароўя, так і для настрою.



**ДЗЕВА.** Зоркі раяць узяць невялікі адпачынак, хаця б 2-3 дні, каб аднавіць сілы. Вось толькі адпачываць цяпер лепш у адзіночку.



**ШАЛІ.** Сустрэчы з сябрамі – галоўнае, што ўрастуе вас у гэты перыяд. Здароўе можа пачаць сваволіць, на працы на вас пасыплюцца ўсе шышкі, а ў адносінах з каханымі наступіць паўза. Будзьце моцныя, каб усё гэта пераажыць!

**СКАРПІЁН.** Вам цяпер лепш не працаваць у адзіночку. У сярэдзіне тыдня магчыма атрымаеце нечаканы прыбытак. Спакуса патраціць грошы марна будзе вялікая, але вы трымайцеся! Адкладзіце суму на больш важныя рэчы.

**СТРАЛЕЦ.** Не адрывайцеся ад калектыву і яго надзённых патрэб. На бліжэйшы час вам выпадае роля міратворца. Адным, але дакладна падабраным словам, вам удасца вырашыць застарэлы канфлікт супрацоўнікаў і нармалізаваць рабочую атмасферу. У канцы тыдня чакаецца грашовы прыбытак.

**КАЗЯРОГ.** Чакаюць няпростыя дзянькі ва ўсім, што тычыцца адносін і розных дамоўленасцяў. Больш за ўсё дастанецца ад дзелавых партнёраў і блізкіх людзей. Не выключана, што ўсе шышкі за памылкі і праліки пасыплюцца менавіта на вашу галаву. Зоркі рэкамендуюць назапасіцца цярпеннем.

**ВАДАЛЕЙ.** Зоркі не рэкамендуюць цяпер будаваць планы на будучыню. Затое можна праводзіць любыя здзелкі з нерухомасцю. Запланаваныя раней вандроўкі і паездкі абяцаюць быць удалымі. Вазьміце з сабой за кампанію сяброў.

**РЫБЫ.** Добра хаця б на тыдзень узяць адпачынак. Калі гэта немагчыма, скараціце рабочую нагрузку да мінімуму. Свядома сыходзьце ад непрадуктыўных і непрыемных вам зносін. Абстаўляйце сябе пазітыўна настроенымі людзьмі, культывуйце ў сабе аптымізм і ні пра што дрэннае не думайце.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 6 | 4 | | | | | 2 |
| | | 5 | 9 | | | | | 4 |
| 4 | | 8 | | | | 1 | | |
| 1 | | | 7 | 9 | | | | 8 |
| 2 | | | 3 | 1 | | 7 | | |
| | 4 | | | 6 | | 3 | | |
| 9 | | | | | | 8 | 5 | 3 |
| 6 | | | | | | 9 | | 7 |
| | | | 5 | 7 | | 2 | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

# Рэгіянальная газета. Rh.by



Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY


## Віляйчук валанцёрыў у касцёле ў Будславе і зайшоў там кавалак старой кафлі

**У суботу жыхар Вілейкі краязнаўца Дзяніс Канецкі валанцёрыў каля касцёла ў Будславе, дзе ў маі здарыўся вялікі пажар.**

Валанцёры расчышчалі пляцоўку за касцёлам, дзе плануюць стварыць аптэкарскі сад і вырошчваць зёлкі.

**Расчышчаючы пляцоўку, Дзяніс звярнуў увагу на невялікі кавалак старой кафлі.**

– Памер кавалка вельмі маленькі, каб датаваць знаходку. Але даслаў фотаздымкі некалькім спецыялістам. Відаць, кафля была ўпрыгожаная выявай кветак ці сонца або нейкім арнаментам.

> **Хацелася б даведацца, як выглядаў поўны ўзор.**

Па словах Дзяніса, у касцёле ўжо рыхтуюцца да Будслаўскага фэсту. Сёлета ўрачыстасці зладзяць на вуліцы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Фота Дзяніса КАНЕЦКАГА.

Старая кафля з часткай узору.

## Чытайце праз тыдзень:

- **Чаму асоба Ядвігі Раздзялоўскай такая важная для Маладзечна? Чаму яна любіла маляваць у карцінах сіні цень? І як адна з яе прац з прыгодамі трапіла ў Мінскі абласны краязнаўчы музей?**

## 26 чэрвеня, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 2-4 м/с




Паводле rp5.by.


## Ідзе падпіска на «Рэгіянальную газету» на другое паўгоддзе!

**Каб быць у курсе навін рэгіёна, чытаць жыццёвыя гісторыі і кожны тыдзень даведвацца нешта новае пра мінулае нашага Павілля, вам не трэба будзе хадзіць па «Рэгіянальную газету» штопятніцы, каб купляць у розніцы.**

**Газету з аб'ектыўнай інфармацыяй на роднай мове прынясуць у паштовую скрыню.**

**Падпісацца на «РГ» можна заўжды:**

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Зарэгіструйцеся на сайце **belpost.by.** У асабістым кабінеце карыстальніка дадайце ваш адрас, а пасля зайдзіце ў акно «Інтэрнэт-падпіска», абярыце «Да каталогу». У акне «Пошук па выданнях» увядзіце назву нашай газеты ці індэкс 63212. Цісніце на спасылку «Рэгіянальнай газеты», якая з'явіцца. Або адскануйце QR-код.

У меню абярыце індывідуальную ці ведамасную падпіску, перыяд выпіскі выдання.

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі**, рублёў**:**

- на месяц – 5.50 / 4.11 (з дастаўкай на адрас падпісчыка / на абаненцкую скрыню або да запатрабавання);
- на квартал – 16.50 / 12.33;
- на паўгоддзе – 33 / 24.66.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 19 / 17.33;
- на квартал – 57 / 51.99;
- на паўгоддзе – 114 / 103.98

**ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*


● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Як вы ратуецеся ад спёкі?

Ад 23 да 25 чэрвеня Белгідраметцэнтр аб'явіў штармавое папярэджанне. Быў аб'яўлены чырвоны, самы максімальны, узровень небяспекі. Такое папярэджанне сіноптыкі аб'яўляюць упершыню за гэта лета. Мы запыталіся ў нашых чытачоў, а як яны спрабуюць выратавацца ў самыя спякотныя дні лета-2021.

**Віктар:**
– Менш бываць на сонцы і больш піць вады.




**Вольга:**
– Сядзім дома пад вентылятарам, п'ём шмат халодных напояў. На вуліцу і на пляж ідзём з дзецьмі бліжэй да вечара, калі спадае спёка і ёсць вецер.



**Кацярына:**
– Вельмі цяжка ратавацца. На дапамогу прыходзіць вентылятар, але паветра гарачае. Шмат п'ю вады, у абед магу з'есці марозіва. Цяжэй – хворым, сталым і дзеткам. Жыву на 5 паверсе, награваюцца сцены і дах. Развешваю мокрыя ручнікі і прасціны. Дзецям даю шмат вады, у спякоту наказваю ім на вуліцу не выходзіць.



**Вераніка:**
– Стараюся менш быць на сонцы, піць больш вады.



**Сяргей:**
– У нас на працы ў аўтакраме халадок.



**Ірына:**
– Я вельмі люблю спёку. У гэтым годзе мы з сынам вырашылі вольны час бавіць на возеры Нарач, і атрымоўваем задавальненне ад гэтага.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**




**ПРИГЛАШАЕМ К ДОЛГОВРЕМЕННОМУ СОТРУДНИЧЕСТВУ**

**ПЕРЕВОЗЧИКОВ**

**для осуществления грузоперевозок по РБ**

**Требования к автомобилю: грузоподъёмность до 1 тонны, объём от 10 куб. м, наличие холодильной установки (температурный режим до +5°С)**

Справки по телефону: (8-029) **192-29-31**, (8-029) **306-17-51**

ООО «Смолевичский хлебозавод» УНП 690253100



Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№26 (1365) 25.06.2021. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1058. Падпісана ў друк у 9.00 24.06.2021.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



© «Рэгіянальная газета», 2021



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.